*Да паважаных Айцоў Настаяцеляў прыходаў, усяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства.*

*Рэдакцыя часопісі «Беларуская Зарніца» зварочваецца да ўсяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства з ветлівай просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня «Беларускае Зарніцы» сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*Гэта ні ад каго незалежны орган, які ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, нацыянальнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*«Беларуская Зарніца» цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці скліканьня Краявога Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*





# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА.

„Ні цурайціся мовы нашае беларускае, каб ня умерці!".

*М. Бурачок.*

## (Кароткі агляд)

Напружнае змаганне с польшчызнаю і каталіцтвам, якоя цягнулась ад часоу Ягайлы аж да падзелу Польшчы, мела сваім скуткам для Беларусі страту вышэйшых станоу свайго грамадзянства і амаль поунае знішчэнне свае самабытнае культуры.

Народныя массы—пераважна селянства—цярпелі прыгон, жылі у вяліких злыднях і былі зусім пазбаулены усякіх грамадзянскіх і дзержауных правоу. Мешчанства, якоя на працягу ХУІІ веку было першым і галоуным абаронцаю нацыянальнае і культурнае нізалежнасьці, пад канец гетага веку збяднела дзеля целага ліыху умоу аканамічнага і дзяржаунага характару.

Беларускі нацыянальны дух замірае.

Народная творчасьць з'яуляіцца як і раней у казках, вершах, апаведаннях, творах лірнікау і старцау, валачобных песьнях і г. д., але штучная пісьменнасьць, як нацыянальная, ні істнуя. Мейсцовыя беларусы атрымлівалі польскае ці расейскае выхаванне і падлуг таго рабіліс палякамі ці расейцамі. Так беларускі народ страціу Міцкевіча, Кондратовіча (Сыракомлю), Верыгу—Дарэускага і іншых, якія узбагацілі сваімі творамі польскае пісьменство.

На карысьць расейскае культуры працавалі Дастаеускі і Глінка. А бацькаускія гоні зарасталі бадыльнікам, усе далей і далей уплывала у мінуушчыну былая слава і культурны росквіт...

Але народ ні памер. Ні было тольні каму абудзіць яго ад сну, каб зноу ен прачхнууся да новага жыцця. Ні было тыя жывыя вады, аб якой баюць у казках, што яна патрэбна, каб вярнуць жыцце забітаму волату.

І гэтай жыццевай вадой з'явіуся тэй культурна-грамадзянскі рух, які сам есьць плод вялікае Французкае рэвалюцыі, і вядомы у гісторыі пад прозвішчам романтызму. *)

Пад яго уплывам пісьменнікі і вучоныя пачалі цікавіцца народным жыццем, збіраць народныя песьні, звучаць яго мову, звычаі, право і наагул усе праявы народнай творчасьці.

Гэтак было і на Беларусі. Яшчэ за часы істнавання Віленскага універсітэту сярод тамашніх прафэсароу і студэнтау склауся гурток, сябры якога цікавіліся мейсцовою люднасьцю і яго жыццем.

Польскія романтыкі (Чэчот, Зан, Одынец, і усяго болей Міцкевіч), поунаю жменяю чэрпалі з скарбніцы „Поэзыі гміннеі"—па нашаму народнага песьнярства, якую добра ведалі, дзеля выхавання на беларускай весцы, сярод беларускага народнага мора, на грудзях беларускай прыроды.

Моладзі студэнцкай надта падабаліс беларускія песьні, і на усіх вечарынках пеліся з вялікаю ахвотаю. Есьць пагалоска, што улюбенаю песенькаю Міцкевіча была беларуская „Ой ляцела пяцера ды чераз лес"... Кондратовіч нават пісау трохі па беларуску. Ян Чэчот збірау беларускія песьні, сам пісау падобныя да іх і так добра, што яны, дайшоушы да народа, зрабіліся як бы яго уласнымі. Патомныя зборшчыкі песьняу часта ні маглі адрозніць іх ад праудзіва народных.

Выхадзец Рыпіньскі выдае у Парыжу у 1840 р. цікавую кніжку: Біалорусь. Кілька слоу о поэзіі простэго люду тэй нашэй провінцыі польскей... дзе між іншых есьць кілька творау на поу—беларускіх. Патым ен жа выдау свой твор ужо чыста беларускі: „Нячысцік, баллада беларуская" Ян Баршчэускі, (1790—1851) апалячэны беларускі шляхціц, так сама збірау рожныя народныя творы: закляцця, загаворы, гутаркі, пагаворкі, казкі і т. д.

---

*) *Замета:* У гэтим артыкулу німа змогі разгледзіць, што такоя романтызм. Хто гэтым цікавіцца, таму я прапаную узяць які небудзь добры падручнік па гісторыі прыгожага пісьменства, ці кніжкі, якія маюць сваею мэтаю тлумачыць гэтае пытання, прыкладам: Котлярэвські: „Поэзія міровой скорбі", Коган: „Романтизм в западно-европейской литературѣ".



Усе гэта ен выдау пад назваю: „Шляхціц Завальня, чыли Беларусь у фантастычных апавяданнях". Напісан гэты твор па польску. На беларускай мові дайшлі да нас тольні вершы: „А чым жа твая, дзеванька, галоука занята" і „Рабункі мужыкоу". Астатні верш у абрыуках.

Уся гэта праца, ведама, ні тварыла беларускае пісьменнасьці, ня гледзючы на тоя, што сярод вышейпамянутых творау былі і напісаныя па беларуску.

Вышейпамененыя культурныя і грамадзянскія дзеячы лічылі сябе палякамі, хоць і мейсцовымі. Яны шанавалі польскую культуру, працавалі на карысьць ей, і іхняя цікавасьць да беларушчыны вынікала, як падлуг уплыву романтызму з аднаго боку, так і, нісьвядома для саміх сябе, подлуг іхняга беларускага паходження і выхавання сярод беларускага люду—з другога.

Але гэтая праца, пераважна этнографічнага зьместу, мела сваю вялікую вагу і карыстную спадшчыну. Яна узбудзіла цікавасьць да мейсцовай людносьці, яе цеперяшняга жыцця, яе гісторыі і наагул нарыхтавала умовы адраджэння Беларусі.

Тольні дзякуючы працы гэтых пісьменнікау першая ластаука беларускага прыгожага пісьменства: „Энеіда" сустрэла бачлівасьць паміж ваколічнай шляхтай і асьвечанымі коламі беларускага грамадзянства ужо у пяцідзісятых роках XIX веку.

Напісана яна была значна раней. Магчыма с пэунасьцю сказаць, што з'явілась яна па сьвет у першых роках XIX веку, ці у канцы XVIII, але, як бачылі вышей, знаемасьць з ею мейсцовых адукованых кол была доугі час надта малою. Тольні тагды зьвярнулі на яе увагу, колі наагул пад уплывам вышейпамяненых культурных працаунікоу пачалі цікавіцца беларушчынаю. Аутар „Энэіды" дагэтуль пэуна нівядомы. Па адным ведамасьцям напісау яе Маньковскі, райца магілеускі і патым віцэ-губэрнатар у Віцебску, па другім—нейкі Вінцук Говіньскі з Смаленшчыны.

„Энеіда" была напісана пад уплывам такого-ж самага твору украінськага пісьменніка Котлярэвськага і вельмі падабалась беларускаму грамадзянству. Яна расходзілась у спісках паміж акалічнае шляхты, мешчанства, вясковае „інтэллігенцыі"—у значным ліку. Шмат людзей вучылі адрыукі з яе на памяць, і яшчэ дагэтуль на Беларусі ходзіць яна паміж людзей у рукапісах. На жаль, да гэтага часу ніхто ні парупіуся сабраць яе да поуноты і аддаць у друк.

Усе вышейпаменныя напісаныя па беларуску творы, мелі выпадковы характар.

Праудзівым бацькай беларускага сучаснага пісьменства трэба лічыць Вінцука Дунін-Марцінкевіча (яго жыцце-піс гл. далей), хуч і ен пісау болей па польску, чым па беларуску. На гэтай мові, як ужо казау я, яны пісалі выпадкова і надта рэдка. Паміж тым, амаль ні водзін твор Марцінкевіча ні абходзіуся без якога небудзь апаведання ці верша, напісаннага выключна беларускаю моваю. Толькі у першай сваей працы „Селянка“ беларуская гутарка мае выпадковы характар. Далей, яго пагляд на сваю беларускую працу вельмі рожніуся ад пагляду яго сучаснікау. І Каратынські, і Верыга-Дарэускі, і Кондратовіч-Сыракомля—усе гэта выдатныя песьняры польскія. На сваю беларускую працу яны глядзелі, як на забаву, бауленне вольнага ад праудзівай працы часу.

Беларушчына, хоць родная аставалась для іх толькі нейкім цікавым з'явішчам, нейкім падаткам мейсцоваму патрыотызму, чым сь такім, што дае матэрьял для сьмешных творау, дапасаваных да густу мала асьвечанай „тутэйшай“ шляхты—адным словам, гэта была пісьменнасьць ніжэйшага гатунку

Марцінкевіч меу іншы пагляд на сваю працу. Ен трымауся тае думкі, што песьняр сваімі творамі павінен будзіць у чалавеку лепшыя стораны яго душы, што, зьвертаючы увагу чытачоу на тыя ці іншыя крыуды, якія робяцца простаму народу, магчыма зністожыць іх, што, зрэшта, твор пісьменніка мусіць намауляць і заахвоціць „нашага беларускага мужыка і бедную шляхту да навукі“.

Марцінкевіч, проч гэтага, вельмі кахау свой родны край, любіу просты народ, спагадывау яго цяжкай долі і з усіх сіл сваіх стараушя праканаць памешчыкау-прыгоншчыкау, што мужык есьць такі самы чалавек, як і яны.

Спагадаючы вясковаму люду, Марцінкевіч надта добра звучыу яго жыцце-быцце, усе звычаі і мову; і малюнкі вясковаго жыцця у ва усіх яго праявах складаюць лепшыя часткі творау песьняра. У гэтым легка праканацца прачытаушы нарыс гульні у карчме, ці вяселля з „Гапона“, гаданьня і дажынак у „Шчэроускіх дажынках“ і г. д

Трымаючысь такіх паглядау, Марцінкевіч, ведама ні мог пісаць только дзеля таго, каб пасьмешыць каго небудзь.

Наадварот, яго творы мы мусім аднесці да таго напрамку у пісьменстві, які празываіцца „сэнтімэнталізмам“ і цалком залічыць у іых „настауніцкіх“.



Зауседы у Марцінкевіча добрае перемагае благоя, хоць часам і церпіць ад яго ліха. Прыкладам, прыгода з Гапонам у аповесьці таго-ж прозвішча, ці с Тадоркаю у „Шчэроускіх дажынках“ ці з Агаткаю у „Купаллі“

Пракананы у сілу асьветы, Марцінкевіч думау, што і прыгон ні меу бы такога брыдкага выгляду, калі б памешчыкі меней верылі сваім аканомам і болей самі даглядалі за гаспадаркай. Яму здавалася, што усе ліха толькі ат благіх аканомау і управіцеляу, а самыя паны—людзі добрыя і спагадаючыя. Пан павінен быць бацькай для сваіх падданых, а мужыкі павінны любіць пана і слухаца яго, як дзеці.

У жыццю было як раз наадварот. Паны і мужыкі стаялі адны проціу другіх, як два ворагі, і ніякай грамадзянскай згоды, паміж імі ні магло быць пакуль істнавау прыгон. На гэта заплюшчывау вочы Марцінкевіч, і з погляду грамадзянскаго яго творы ніудалыя.

Марцінкевіч радзіуся і памер панам, хоць і шляхетнай уроды, з добраю душой і сьветлым розумам. Гэта панскае паходжэння прашкаджала яму глянуць шчыра на сучасныя адносіны памешчыкау і селян.

Толькі у вершу: „Вясна голад перапала...“ ен крыху закрануу гэтыя адносіны, передбачаючы, у яком становішчу апынуцца паны, калі будзе скасован прыгон.

Калі з боку грамадзянскага развіцця творы Марцінкевіча ні надта карыстны для нас, дык з боку развіцця беларускага пісьменства гэта падатак вялікае вартасьці. Досыць сказаць, што толькі праца Марцінкевіча нарыхтавала для беларускага друкаванага слова, той грунт, які патрэбен для кожнага пісьменства, маючаго вялікія мэты адбуджэння народных мас.

Пад уплывам Марцінкевіча і мейсцовыя польскія пісьменнікі пачалі другімі вачамі глядзець на беларускую справу.

Ведама, напрыклад, што праслухаушы „п. Тадэуша“ у беларускай мові Вэрыга-Дарэускі заахвоціуся сам і пераклау „Конрада Валленрода“.

Ні ведама, якім шляхам пайшло б развіцце беларускай пісьменнасьці далей. Увесь час ей приходзілось змагацца з уплывамі чужых, вельмі моцных культур: польскай з захаду і с усходу расейскай. Але у 1865 р. выйшла забарона беларускага друку, і тым самым адразу гвалтоуна быу устрыманы нацыянальна-культурны рух.

Марцінкевічам каначіцца першая доба беларускага пісьменства. Песьняры гэнае добы у сваіх грамадзянскі-дзяржауных поглядах трымаюцца ні істнуючай шляхецка-хлопскай еднасьці і маняцца уплывам сваіх творау зністожіць благія звычаі і узмацаваць добрыя.

Новая доба беларускага пісьменства пачынаіцца з Мацея Бурчака. Гэты пісьменнік з'яуляіцца престаунікам тае шляхты, якая трымалась надта крайніх—пеуня для таго часу—грамадзянскіх паглядау.

Пракананая у тым, што патрыярхальныя адносіны паміж панамі-прыгоншчыкамі і селянамі-падданымі есьць мана і у жыццю ні істнуя, што прыгон-як яго ні фарбуй, —усе ж такі астаецца нічуваным зьдзекам чалавека над чалавекам, што развіцце краю, палепшення аканамічнаго і культурнага стану вясковага люду магчыма, толькі рышуча парваушы з старым укладам жыцця-гэная шляхта дамагалася скасавання прыгону і перебудавання дзяржауных установ на падвалінах лібэральных.

Атсюль выходзілэ, што адносіны яе да расейскага ураду былі варожымі, Але, ні гледзючы на свае дэмакратычные пагляды, шляхта гэтая ні мела ніякага падтрымавання ад селянства. Для вясковага люду гэта былі тыя самыя паны, ад якіх ен столькі выцерпеу.

Такім чынам яна хоч-ні-хоч прымушана была зьвертацца на Польшчу і падлуг таго глядзець польскімі вачыма на беларускую справу.

Усе гэтыя варункі мейсцоваго жыцця адбівались у творчасьці Мацея Бурачка. Ен ужо не апісывае селянскія вечарніцы, добрых паноу і верных хлопау-не! Ен зауседы резка гавора аб тым, што пан гэта эксплуататор, што наагул кожны, хто ні працуя, каб дабыць сабе кавалак хлеба, тым самым сідзіць на карку у мужыка і паедае яго працу.

Па малюнку Бурачка пан ні толькі нічога добрага ні робіць мужыку, але наадварот, мала таго, што корміцца ад яго працы, яшчэ і намауляе яго на благія умыслы, Так прыкладам, у вершу „Панскае ігрышча“ М. Бурачок апісвае, якое уражэння робіць на працуючага мужыка вяселае і гультайскае жыцце паноу:

...Пасьля паны як заселі
За сталамі чыста усе,
Дык пілі, пілі, а елі!
Дык ніхай іх пранясе!
Вот каб гэтак мы гулялі!



І так пілі і так елі,—
Я б зауседы быу на балі
Ад нядзелі да нядзелі!

Наагул, гэты верш есьць зьдзек і абраза для усяго „шляхотнаго“ стану. У другім вершу: „Адказ Юрцы на панскае ігрышча“ М. Бурачок піша:

...А што паны ядуць ласа,
І што смачна магуць піць:
Ото соляць свае мяса,
Бо ужо сталі чыста гніць!...

Пакуль паны ні перастануць быць панамі, пакуль яны ні пачнуць працаваць шчыра на карысьць простаму народу, датуль ніякія іхнія установы, па думцы Мацея Бурачка, ні здольны палепшыць жыцце селяніна.

У вершу „Скацінная апека“ М. Бурачок яскрава выкладае, якую крыуду робяць мужыку сваей рупнасцю такія, бытцым, літасцівыя паны, як „сябрукі хаурусу апекі над жывелаю“.

Далей суд прысяжных! Гэта лібэральная установа сустрэла вялікую прыхільнасьць у грамадзянскіх колах. Але як ставіцца да яе М. Бурачок, магчыма убачыць, прачытаушы верш „У судзе“.

І здаецца, што яго пагляд быу бліжэй да народнага, чым пагляды лібэралау.

Так сама скасавання уніі. Сколькі перацярпеу бяздольны беларус-селянін за сваю веру ад езуітау, гэта і выказаць ні магчыма. Столькі зьдеку, зневагі, пакуты, бадай ні воднаму народу на сьвеці, апроч ма-быць, жыдоу, ні выпала на долю, як народу беларускаму. Скуткам усіх захадау каталіцкіх было тоя, што частка нашаго народу пераварацілася на вунію. Вунія істнавала ні адзін дзесятак гадоу. Як-ні-як, але яна зрабілась верай часткі беларусау, і з гэтым павінен лічыцца усякі урад, калі ен дэмакратычны і паважае душу народа. Але у Расеі ніколі ні зважалі на чалавека. Пры Міколаі І пачалі казацкімі нагаямі ды пастоямі перавертываць беларусау-вуніятау на праваслаўных і перевярнулі... на католікау-палякау. І тут М. Бурачок у вершах „Хресьбіны Мацюка“ і „Свая зямля“ малюе настрой, які будзіуся у душы народа ад такія рупнасьці паноу і чыноунікау. Пад уплывам гэтых „шчыра-рускіх“ захадау каля вуніятау радыкальная шляхта мейсцовая, ужо і так

апалячаная, з вялікаю ахвотаю павертала свой твар да Польшчы. У адраджэнню старажытняе Рэчы Пасполітае яна бачыла спасення свае ад расейскага уціску і базпрауя.

Ведама, што пры таком паглядзі трэба было заплюшчываць вочы на тоя, што тварылася у гэнай славутнай Рэчы Пасполітай с простым народам, і, такім чынам, супярэчыць уласным дэмакратычным поглядам.

Варожыя адносіны да Расеі і цяга на берагі Віслы прымусілі переказіць і гістарычныя падзеі. Так, у прадмові да „Дудкі Беларускай“ М. Бурачок піша: „...С прадвеку як наша зямелька з Літвою злучылася, так і з Польшчаю з'едналася д а б р а в о л ь н а я, дык усе яе Беларусью звалі“. Мы добра ведаем, якоя гэта была „д а б р а в о л ь н а е“ злучэнне і да чаго яно давяло і Беларусь і Польшчу!

Німа чаго казаць, што польскія сымпатыі нічагусенька ні памаглі у здзійсненню тых пажаданяу, якія манілася дасягнуць радыкальная „інтэлігэнцыя“. Наадворот, пасьля паустання 1863 року, пачынаіцца рупная праца дзеля абрусення краю. Падлуг таго зараз з замахам на усе праявы польскае культуры знІстажаюцца амаль да шчэнту первясткі культуры самабытнае беларускае. Адначасна з працаю расейскіх урадаусау пачынаіцца „навуковая“ навала на беларушчыну. З'яуляюцца працы Кояловіча, Батюшкова, маючыя мэтаю праканаць расейскае грамадзянства, што „тутэйшы“ народ нічым ні розніцца ад маскоускага, што якія-кольвек асобнасьці яго гутаркі і звычаяу есьць толькі скутак польскага уплыву.

Усе гэныя варункі рабілі працу над адраджэннем беларускага нацыянальнага руху надта цяжкаю. Досыць паведаць, што кніжкі М. Бурачка мусілі друкавацца за межамі дзяржавы Расейскае у Кракаві і Пазнані, а зборнік песьняу другога песьняра беларускага—Янкі Лучыны, (Івана Неслухоускага) сучасніка М. Бурачка, трохі маладзейшага ад яго, пашанцавала выдаць толькі дзякуючы таму, што патрапілі праканаць цэнзара, быцым гэта вершы на баугарскай мові!

У зборнік, пад прозвішчам „Вязанка“, увайшла толькі вельмі нізначная частка напісаных праз яго вершау. Большасьць іх досі істнуя у рукапісах, ляжыць па кніжніцах прыватных асоб і чэкае свайго часу, каб быць надрукаванымі.

Я. Лучына трымауся наагул тых самых грамадзянскіх паглядау, што і М. Бурачок. Ен так сама быу шчырым „народнікам“ і ворагам прыгону і усіх яго скуткау. Так



сама, як і Бурачок, меу нахіл да польскай „орієнтацыі“. Але у яго творах меняй запалу і больш безпасредняга пачуцця да прыроды.

Па сваей песьнярскай здольнасьці ен ні рауня Бурачку, але і у яго есьць досыць прыгожых вершау і па формі і па зьместу. Вось, прыкладам, верш, якім пачынаіцца „Вязанка“:

Ні я пяю—народ Божы
Дау мне у песьні лад прыгожы,
Бо на сэрцу маю путы
І з народам імі скуты.
З ім я злуся з добрай волі,
Чы то у долі, чы у нядолі.
Чы гдзе гора абзавецца,
Як асіна грудзь трасецца.
Чы пра радасьць чую весьці,
Усе у грудзь хаваю дзесьці.
Мне гаворыць веска, хата,
Мне гаворыць сэрца брата.
Рад збіраю, што пачую,
У грудзі сваей нашу я,
Аж, як траука на кургані,
Яно узыйдзя—песняй стане.

Із гетага верша мы бачым, што Я. Лучына зусім хоча з'еднацца з народам, досягнуць таго, каб праз яго песьні гаварыу сам народ.

Сам ен лічыць себя народным песьняром, чым сі падобным да грецкіх рапсодау. І, пеуня, што па складу і зьместу яго вершы зусім простыя і, адначасна с тым, здольныя закрануць сэрца і узварушыць у душы лепшыя чалавечыя пачуцця.

Трэйці песьняр гэнай добы—Ядвігін Ш. (Антон Левіцкі) дажыу да нашае пары і пабачыу свае творы друкаванымі ужо пасьля 1905 року.

Паходзючы з дробнае шляхты, як і першыя песьняры, ен аднака ні далучаіцца цалком да двух папярэдніх ні па сваім грамадзянскі—дзержауным паглядам, ні па напрамку сваей пісьменскае працы. Але розніцца ен і ад дзеячоу „Маладое Беларусі“ якія выступілі на грамадзянскую і пісьменскую ніву ужо у часы рэволюцыйнага руху 1905—06 рр.

Стаіць ен, ні раунуючы, як капец, на мяжы двух пакаленняу, сьцярагучы спадшчыну мінулага і стрымаючы памылковыя крокі сучаснага.

Але, каб уразумець характар яго творчасьці, якая мела мейсца пры значна іншых умовах, чым творчасьць Бурачка і Лучыны, трэба уявіць сабе, якія скуткі мела праца гэтых пісьменнікау, і пры якіх умовах пачауся і буйнеу апошні культурна-нацыянальны рух на Беларусі.

Паустанне у Польшы і яго адбітак на Літве і Беларусі скончылася, як ведама, поуным грамленнем „радыкальнае" шляхты.

Селяне ані крануліся, каб падтрымаць гэную „панскую" выдумку. Усе агітацыйныя лісты, як, напрыклад, „Гутарка старога дзеда". „Перадсмертны разгавор пустыльніна Пятра", „Мужыцкая прауда" можна сказаць, ні мелі ніякага уплыву на селян. Доуга трыманы у паняверцы народ ні веры ніякім пасулам аб будучым салодкім жыццю у нізалежнай дэмакратычнай Польшчы і сьмеяуся над абецанкамі вольнасьці і братніх адносін з боку шляхты, кпіу з таго, як паны уцякалі „до лясу" і ахвоча памагау казакам лавіць „бунтароу".

Гэта было поунае зністажэння шляхецкі-радыкальных надзей і пажаданняу а разам з тым і „народніцкага" напрамку беларускага пісьменства. Пакуль ні прачнуліся народныя масы, пісьменнасць беларуская шляхецкага вырабу, хуч шчыра демакратычная і надта радыкальная на свайму напрамку, ні мела ні уплыву, ні пашырення. Мімаволі хочыоца перавярнуць словы Маркса; „вызваления працуючага люду можа быць створана толькі праз яго самаго" на гэткія; „вызваления прыгнечанага народу можа быць толькі задачаю шырокіх, праудзіва — народных мас."

Але беларускі народ спау магільным сном.

Для шырокага народнага руху ні прыйшоу час. Шляхта усякага колеру і напрамку пераводзілась дзеля грамадзянскі—эканамічных умоу. З аднаго боку яна пазбаулялася сваіх маенткау, якія пераходзілі у рукі купцоу, з другога канчальна зракалася свайго беларускага паходжэння і пераходзіла у стан палякау ці расейцау.

Так, ці неяк, але опошнія падваліны шляхэцка—беларускага руху суздром руйнаваліся. І зноу беларускі рух заміраe на доугіе гады.

Але культурная спадшчына робіць сваю працу. Студэнтская моладзь беларуская гуртуіцца у розныя супольні, колы, грамады па унівэрсітэтскіх мейсцох Расеі: Кіеві, Харкаві, Маскве і асбліва Петраградзі. На пасядзэннях гэтых гурткоу чутна беларуская гутарка, ідуць размовы аб выда-



вецтві беларускіх пісьменнікау, ля прафэссарау, чытаючых курсы аб „Літоускай" дзержаве, „западнорускай" мові і т. д. складаюцца гурткі—і так паволі krataіцца беларускі рух, чакаючы лепшых часоу.

На Беларусі пасьля Мураeускае навальніцы пачынаіцца болей спакойная пара. Пачынаіцца праудзіва навучнае звучэння краю. У розных выданнях урадовага характару як, „Виленскій вѣстник" і розныя „Губернскія вѣдомости" побач з этнографічным матэрьялам, часамі вялікае вартасьці, друкуюцца беларускія вершы і апавядання часта штучныя, але ні выкінутыя цанзураю, якая уважала іх за этнаграфічны матэрыял. Вось у гэтыя часы і выступіу Ядвігін Ш.

Стары напрамак „настауніка—публістычны", запаведаны Марцінкевічам і Бурчаком, ужо аджыу свае. Каб паставіць беларускае пісьменства на ногі, треба было даваць творы, вартыя с пагляду мастацтва, здольныя зьвярнуць на сябе увагу беларускае дэнацыяналізованае „інтэлігэнцыі", патрапіць закрануць яе заснуушае нацыянальнае пачуцце.

Творы Ядвігіна Ш. маюць рознае абліччо. Із яго гумарыстычных апавяданяу лепшыя-гэта пераклады народных казак. Тут народная творчасьць і уласная надта хораша дапасуюць адна да воднай.

Мало мастацкімі лічу я такія сьмешныя апавядання яго, як „Важная фіга", „З маленькім білецікам". Але малюнкі з вясковага жыцця надта добры па формі і па зьместу. Чычач сам у гэтымъ можа праканацца, пазнаеміушысь у гэтым зборніку с апавяданням „Гаротная".

Такім чынам Ядвігін Ш сваімі творамі паставіу беларускуу пісьменнасьць на шлях праудзівага мастацкага адбітку жыцця. Без усякіх „навук" і „напрамкау" Ядвігі Ш. апісвае нінадмалеванае жыцце, як яно есьць, і гэта рабіло лепшы уплыу, чым самыя радыкальныя думкі, прыбраныя у вопратку верша.

Годы вялікай навальніцы, першага дмуху рэволюцы, 1905—1906 р.р. прабудзілі і Беларусь. Зямельнае пытанне, якоя ні здоляу вырашыць самадзержауны урад за доугія часы свайго панавання, ні страціла сваей вострасьці і дагэтуль. Але у 1905-1906 р.р. яно было знакам селянскага руху. Селяне, мо першы раз у жыццю, пачулі, што яны: „жыцця валадары".

Як ведама, селянскі рух скончыуся нічым. Вясковы люд апынууся у тым жа становішчу, як і раней, але для народнага самапазнання рэвалюцыйная завіруха зрабіла шмат.

Яшчэ боляй адукавала яго палітыка Дурново—Столыпіна.

Сьвятлейшыя галовы паміж вясковаю моладзью, атрымаушыя якуюкольвек асьвету робяцца сьвядомымі рэволюцыянерамі. Яны ідуць на веску, як вучыцелі па школах, працуюць па спажыучым суполкам і усюдых, дзе толькі есьць магчымасьць, шыраць думку аб патрэбі арганізацыі і нацыянальнага адраджэння.

Гэтую працу па кутках Беларусі аб'еднау выйшаушы у канцы 1906 р. першы беларускі штодзенник „Наша Доля", які адразу узяу шчыра демакратычны напрамак і сустрэуцрыхільныя адносіны ад усіх хуч трохі асьвечаных беларусау. Але праз колькі месяцау ен быу зачынен Урадам за „вредное направленіе" Нізабарам выйшау новы штодзеннік „Наша Ніва", каторы патрапіу дацягнуць да самае вайны і толькі ужо у час вайны быу спыняны Урадам.

„Наша Ніва" з'явілася тым праудзівым асяродкам, да каторага цягнулася усе сьветлае, маладое, шчырае на Беларусі. Супрацоунікамі гэнага штодзенніка былі яго ж чытачы із простага сермяжнага люду. З самых глухіх куткоу Беларусі насылаліс да рэдакціі вершы, апавядання, проста дописы—і такім чынам сам народ прыймау учасьць у стварэнню шчыра народнага пісьменства. Хутка над грамадой супрацоунікау паднялісь выдатныя песьняры: Якуб Колас, Янка Купала, Карусь Каганець, Цетка, Цішка Гартны, Бядуля, Алесь Гарун, А. Пауловіч і шмат іншых. Па за межамі Беларусі у гетыя гады пачау сваю пісьменную працу М. Богдановіч.

За вылучэннем Богдановіча, Пауловіча і Бядулі, рэшта песьняроу паходзіць із самай глебы народу. Усе гэта дзеці простых селян—землятробау; свае дзяцінныя і маладыя гады яны правялі на весцы, жывучы пры такіх жа варунках, як і іхнія бацькі.

Ні дзіва, што зьместам амаль ні усіх творау гэтых пісьменнікау з'яуляіцца жыцце селяніна-беларуса, з усімі радасьцямі і смуткамі, з усімі яго пажаданнямі.

Асноуная думка усяго новага пісьменства—гэта узнання беларусам у самым сябе чалавека.

У першым вершу „Мужык", якім пачау сваю пісьменную працу Я. Купала у расейскім штодзенніку „Сѣверо-западный Край", ен піша:

„... Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,



Ніколі, братцы ні забуду,
Што чаловек я, хоць мужык..."

І вось пытання аб тым, што зроблена, ці робіцца для мужыка-чалавека, ні дае супакоіцца, ні дае затрымацца нашым песьнярам на „поэзіи чистаго искусства".

„... Што насып размыла жвіровы?
Што спаць мне у зямлі ні дае?
Чаго кажаны тут і совы
Зьляцеліс на косьці мае?
Проч, гадзіны, сліуні, рапухі,
Хоць згіньця у праметнай на дне.
Благія і добрыя духі
Прыбліжцэся жыва ка мне!
Так спаць ні ахвота век цэлы;
Мне хочэцца ведаць, пачуць,
Што чутна на сьвеці на белым.
Патомкі мае як жывуць.
Ці досыць ім хлеба, да хлеба,
Як добра ім плаціць зямля.
Ці ласкі ад сьвету, ад неба
Ні маюць, як некалі я.

Ці песьні пяюць, ці як мухі
У цянетах гніюць павука.
І усе гарарыцця мне духі,
Што зробленна для мужыка.

Так пытае цень мужыка у „Адвечнай песьні" Купалы.

Але ні Колас, ні Купала, наагул ніхто із новых пісьменнікау, ні спадзіваіцца, што вызвалення народу можа быць паміма яго самаго. І ад шчырага сэрца ад глыбокага прakанання, што адзін праудзівы шлях вызвалення, гэта развіцце грамадзянскае працы—усе яны клічуць да яе.

Асаблівая энергія чуіцца у вершах Цеткі і Цішкі Гартнага (З. Жылуновіча) предстаунікоу беларускага мейскага працоунага руху, беларускага пролетарыяту.

Але первясткі пролетарскага руху на Беларусі яшчэ надта кволыя ды і неаткуль гэтаму руху набрацца моцы, калі у нашым краю бадай што ні істнуя буйнай фабрычнай прамысловасьці. Народ селянін, старажытны славянін—жыхар пушч і балот, народ—араты, стварыушы вельмі багатую лірыку, народ ціхі, з задуменнай душою, вырадзіу і песьняроу падобных да сябе: Маркотная лірыка перемагая у іх другія роды пісьменства. У сваіх лірычныхъ творах яны

вылiваюць усе пачуцця сваей душы: кахання да роднага краю, свае мары аб будучынi, сваю маркотнасьць, сум, пажадания, смутак аб гаротнай долi краiны сваей.

Цяжкая, што i казаць, дарога беларускага адрадження. Збудзiлася ад векавечнага сну толькi жменя нашага народу. Нават у нашы часы вялiкiя i грозныя навальнiцы, калi рэвалюцыя да самага дна узварушыла людцкоя мора, вялiзныя масы народныя астаюцца у страшэннай цемры. Кратаюцца яны, нi раунуючы, як сляпыя краты, шукаючы абмацкам лепшое долi i нiведама куды вынесе iх рэволюцыйная хвiля. Але ведама адно, што народ наш, як нацыя ужо нi згiне. Ен дайшоу,—прауда, пакуль яшчэ толькi у нiзначным лiку—да с а м а с ь в я д о м а с ь ц i. Ен радзiу сваiх уласных песьняроу, кроу ад яго крывi, косьць ад косьцi яго,—i якая розьнiца у настроi новай пiсьменнасьцi i старой!

Старая пiсьменнасьць—шляхецкая па персональнаму складу песьняроу i народная па свайму напрамку—подлуг гэтыхъ умоу стаяла на мыльным грунцi. Народу яна была нiдаступнай дзеля яго малай асьветы i варожых адносiн да паноу. Шляхта ж ахвотаю чытала цiказыя i сьмешныя апавядання iз вясковага жыцця, але зусiм нi згаджалася разважаць пытання, каторыя датаркалiся яе кроуных iнтэрэсау.

I шляхецкая пiсьменнасьць загiбла без пары, нi маючы падтрымку i бачлiвасьцi. Новая пiсьменства стаiць грунтоуна. Яно нi мае нiякай прычыны звертацца адразу да паноу i працоунага люду.

З панамi нiчога супольнага новая пiсьменства нi мае, нiчога ад iх нi спадзiваiцца. Уся iдэолегiя старыя, нават радыкальныя, шляхты далека ад пажаданняу i мэт беларускага руху, як далека неба ад зямлi.

Новая пiсьменства у самыя цяжкiя часы свайго iстнавання нi шукала прытулку у царстве мар; наадварот, заусяды цьверда i сьмела глядзела у вочы усякаму лiху.

Яно адверта кажа прауду пра сучаснае жыцце, пра становiшча народу i нi усыпляе яго энергii байкай пра салодкую будучыну.

Што кажыш мне, паэт, а праудзi тэй, што будзе.
Мне сэрца кроiцца ад крыуды нашых дзен!
А бачу добра й сам: iдуць да прауды людзi,
Расьцець яе жаунер i шырыцца загон.
Марудна братачкi! I покуль сонца узыйдзя,



Дык вочы выесьць нам салоная раса,
I покуль першы дзень людскога шчасьця прыйдзе,
Мiльены сэрц праткне гароты злой каса.

---

Пакiнь, пакiнь спеваць, а праудзi тэй, што у небi!
Яна чужая намъ, таемныхъ прауда сiл;
Яна нi сходзiць нам у канечнае патрэбi,
Калi пакутпы дзень так довяг i нi мiл.

---

Прашу цябе, мой брат, сьпевай аб нашым горы,
Аб тым што есьць цяпер i што дауней было,
I што на усякi твар, кладзець як плуг разоры,
I што у мiльенах душ, разоры правяло.
Прашу цябе, сьпевай аб горы песьнь адну ты
I наш гаротны лес рабi яшче цяжей,
Тагды, пабачыш сам, парвуцца духа путы
I будзе ясны дзень да нас тагды блiжэй.

(„Поэту“ А. Гарун. „Матчын Дар“).

Кiеу. Люты 1919 р.

*Лявон Леуш.*

## Вiнцук Дунiн-Марцiнкевiч.

В. Марцiнкевiч радзiуся у 1807 р. Бацька—дробны шляхцiц—быу пасэсарам у Бабруйскам павецi у Меншчынi, дзе арандавау фольварк Панюшкевiчы. У гэтым фольварку i правеу свае дзяцiнные i школьные рокi малады Вiнцук, пакуль ня скончыу сяредняй школы у Бабруйску, у 1824. Каб атрымаць Вышейшую адукацыю, ен с пачатку паехау у Вiльню, а патым у Пецярбург, але, нi скончышi унiверсiтэту вярнууся да дому i пачау служыць у Менскiх урадовых установах аж да 1840 р., калi ен здоляу купiць маленькi фольварк Люцынку пад Менскам дзе i пражыу да сваей смерцi у сакавiку (марту) 1855 р. Марцiнкевiч пiсау па польску боляй, як па беларуску, але нi польскiя творы яго, а беларускiя дабылi яму славу пiсьменнiка. У гэтых апошнiх ен выявiу досыць вялiкую творчую здольнасьць i артыстычнае пачуцце, тагды як польскiя яго творы нiчога цiкавага нi маюць. У гэтым, здаецца, магчыма бачыць, як праз чужую, польскую культуру прабiуся прыродны беларускi дух.

Першым творам Марцінкевіча была „Селянка“ опера у двох дзеях, музыку да якой напісау Ст. Манюшка. У гэтым твору па беларуску гаворaць толькі селяне; большасьць асоб ужывае польскую мову. Але потым з'яуляіцца „Гапон“ адзін з лепшых твораў Марцінкевіча, напісаны выключна беларускай мовай. Далей Марцінкевіч надрукавау: „Вечарніцы“, „Купалля“, „Шчэроускія дажынкі“, некалькі вершау і переклад першых двух быліц вялікага твору А. Міцкевіча „Пан Тадэуш“. Далейшая выдауніцкая праца Марцінкевіча скончалася дзеля забароны у 1859 р. беларускага друку. Але у рукопісах есьць яшче шмат яго творау. Паміж іншымі „Пінская шляхта“, якая была надрукавана першы раз толькі у прайшоушым року у „Вольнай Беларусі“.

## „У КАРЧМЕ“.

### З аповесьці „ГАПОН“.

Шум, крык, гоман у карчме,
Кіпіць сельская дружына,
Піва, мед, гарелку пье,
Ажны курыцца чупрына.

Гаспадары за сталом
Громка гутарку вядуць;
А ландарка з ландаром
Мед, гарелку, раздаюць.

Хлопцы, дзеукі, маладзіцы
Ля парога гаманяць,
А старыя чарауніцы
Цішком ля пячы сідзяць.

Ананія на йскрыпце граіць
Лявоніху то бычка;
Гапон жару поддаваіць:
„Заграй, крычыць, казачка“.

Аж гукнула Кацярынка,
Так задау ей кулаком,
„Хадзі, мая ты малінка!“
Дый затупау хадаром.

„Ананія, реж вясёлы!“
Крычыць громка наш Гапон,
Дый сабраушы у сьвітце полы,
Мэрам хохлік! мэрам ен!



То у прысядку выкідаіць,
Ажны стогніць пад ім пол,
То галубца падбіваіць,
Ажны трасецца хахол.

Ах! Ух, давай жару,
Давай болі, давай пару!
Крычыць Гапон, дый гуляіць,
Пад скрыпачку падпеваіць.

„Ей чух, Кацярынка!
Чабоцікі красны;
Каму бліщаць, каго любяць
Твае вочкі ясны.
Ей чух, Кацярынка!
Тваі кудры уюцца,
Скачыць, пляшыць мая міла.
Аж щочкі трасуцца.“

Трейчы Гапон прамахнуу,
Бражджаць ножны з вагнівом,
Стау на мейсца-падпрыгнуу.
Дый затупау хадаром.

Кацярынка ж успляснула,
На міленькага зіркнула,
Хвацъ! спаднічку распусьціла.
Трэйчы запятком подбіла.

Дробны ножкі выкідаець,
Чаравічкі скрыпяць,
А із вочак сіяць,
Бытцым іскры ляцяць.

Русы косы падлятаюць,
Касьнікі як жар, гараць;
А вось выжей як заграюць,
Так і возьме прыпеваць:

Мілы Хартон, мілы Саука
Да мілейшыж мой Гапон:
Хахол ясны, паяс красны,
А галасок, кабы звон!
Ні хачу Саукі, Хартона,
Мне жыцця з імі ні быць,
Валей маяго Гапона
З ім ні буду я тужыць.“

Пяець, пляшыць, падбіваіць,
Усяк вокам за ей брадзець,
Як ластаука падплываіць,
Ажны хочыцца глядзець.

Ананія ж воуча юха!
То ужо нечага маніць!
Ярка режа із за вуха
Аж скрыпка яго звініць!
Мяцеліцу прабірае,
Емка, громка, ладны час!
Дробна смычкам падсякае,
Звініць рымка, гудзіць бас.

Локаць упершы у бруха,
Ля кабылкі нос дзяржау,
Далі сціхнуу—дый з за вуха
На лявоніху падняу.

Схваціу Гапон Кацярынку,
Смела к серцу прыцягнуу,
Абняушы рукой за спінку,
Лявоніху успрыгнуу.

Угрунь за ім маладзіцы,
Дзеукі, хлопцы, хто як змог,
Дрыжаць чупрыны, спадніцы,
Суматоха,—што крый Бог!
Ат пылу аж пацямнела,
Хохат, лопат, шум да крык,
Як у гаршку закіпела,
Як на быдла напау зык,

Той у прысядку, той выкідкі
Чупрыны як шчець дрыжаць,
Тая бокам, тая скокам,
Дый так возмуць прыпеваць.

„Ах каліж я у матулькі была,
Як вішенька у садочку цьвіла,
Папалася злому духу, мужыку,
Ен высушыу, як ліпінку у духу.
Наехала повен двор татарау,
Ды узяліж майго мужа у палон,
Ні жаль жаж мне, што яго узялі,
Толькі шкода, што ні крепка звязалі:



Ен, паганец, уцячець, уцячець,
Требаж будзе сцяряжчыся, уцякаць.
З варабьямі пад страхою начаваць.“

Далей крыкнула Таццяна,
Абняушы за шыю Яна:

Пашоу Янка у грыбы,
Таццяна у апенкі,
Спаткаліся, абняліся,
Як дзеткі маленькі.“

А за ею Халімон,
Гудзіць як царкевны звон:

Ой Боже мой, Боже
На што я радзіуся
Састареуся як собака,
Дасюль ні жаніуся.
Перестау.—Гапка спляснула,
Дый тоненька зацягнула:
„На вуліцы курта брэша
А да мяне мілы чэша
А ці чэша, ці ні чэша,
Ды ні дарам курта брэша.

Вот так пляшуць, прыпеваюць,
Хохат, лопат, крык і зык,
Аж пад строп пыл падмятаюць,
А як резау—режа смык!

---

## ШЧЭРОУСКІЯ ДАЖЫНКІ.

### (У ДВАРЕ).

У дваре Шчэроускім, серцам залаценькі,
Стаіць на ганочку паніч маладзенькі;
На ім світка чорна, шапачка рагата;
Рада гасьцем яго прыгоженька хата:
Дый гасьцей ні мала, па двару гуляюць,
З панам весяленькім жнеяк спатыкаюць.
А у полі грамадка голосам заводзіць;
К панкам вось якая песенька даходзіць:

„У нас сягодня вайна была,
Усе поле заваявалі,
У копачкі паскладалі;
Гдзе горачка,
Там копачка,
Гдзе лажочак,
Там стажочак“.

Якояж там войска, мауляу, туча чорна,
С сяла проста суне у двор шырокім шлякам,
Рассыпалась па усей дарозе прасторна,
На перадзі старшы, дый з бліскучім знакам.
Ні войска то, дзеткі, ні туча нябесна,
Паніч сяло цела спрасіу на цажынкі,
Тож свая дружынка, тож грамадка чэсна:
Стары гаспадары, стары гастпадынькі.
А с поля даходзіць якісь голас дзіуны
Што раз бліжей... бліжей... сумны прыуныуны

„Канец ніуцы, канец!
Упляцем пану вянец;
Ды ужо жніва у канца,
Нуцяж, дзеукі, да вянца!
Нуцяж да вянца!

Ды штож там такоя на дваре мігаіць.
Ці сьнег прыкрыу краскі, аль мак расцвітаіць
Ні сьнег то, ні мак то, мае вы міленькі!
Гэта ідуць з нівы жнейкі маладзенькі.
У перадзі грамады Тадорочка красна
З вянком залаценькім, як зорачка ясна.
Звонкім галасочкам, мауляу, салавейка.
Звініць, вось, аж люба; з ею кожна жнейка:
Дзеукі памагальны пад ручкі вядуць;
А пачынальнічкі, крый Бог, як гудуць!

Змялі поля мяцелкамі;
Ідзем у двор вяселкамі,
Выйдзі добры наш паночак,
Ды сустрэч сваіх жнячак!
Выкаці нам бочку меду,
Збан, другі гарелкі,
Мыж жнейкі, ні жаунеркі,
Гарелкою пакрапімся,
Мядком прахаладзімся.



Табе дабро спажываці,
Нам вяселенька гуляці!“.

Тут міргунуу пан шчодры дворнай маладзіцы;
Аж лакай Мікіта вынес із сьвятліцы,
Ды на сярэбранай тацы за тры сыры,
Хлеб, соль, рублявікау бяленькіх чатыры;
Другі служка панскі што Цяглікам звауся,
Пад цяжкім гарелкі вядром нагінауся;
Дзеукаж што раз бліжей да пана падхозіць,
Тонкім галасочкам вось гэтак заводзіць:

„Наш пан маладзенькі,
Кудры яго залаценькі,
Па ганачку ходзіць,
Хустачкай матае,
Сваіх жнеяк вітае;
А жнейкі маладыя,
У іх сярпы залатыя,
К месячку жалі,
Сярпы зазублялі.“

Вось ужо пад ганкам, хіліла галоуку,
І гэтаку пану сказала прымоуку:

Добры вечар, паночак!
Знімі з галоукі вяночак;
З зеленага поля,
З ядранага ауса.
Дау Бог пажаці,
Судзі Боже спажыці
У карысьці, у радасьці,
У добрым здароуі.
Судзі, Боже, нашаму пану
Жонку харошую,
Свайму дому гаспадыню
Нам добрую паню.
Наш пан малады, конь яго вараны,
Сядло золотам вышыта, брылянтамі выбіта.
Наш пан на кані войска куець,
Сваяго рыцэрстра доказуець,
Гавора да служкі:
Улажыу бы я сабалі ні ідзе лукавіе!

Мне сабалей бракуе.
Пан сваяго рыцарства ні страціць

Нам за вянок заплаціць,
Хоць чырвона злота
Для нашей ахвоты,
Жыту на ураджай,
А пану на доугі век.
Пану вянок, а нам гарелкі збанок!“

Вясна голад перапала
Ані солі, ані круп:
І скаціні корму мала
І самому ані у зуб.

На палацях дохнуць дзеці,
Жонка тры дні здуру пьець,
І дауно парожна у клеці,
І парожняя асець.

Каліта ляжыць пад лаукай,
А пры ей парожны гляк;—
Ад Каляд мы с кумам Саукай
Пацяралі у губе смак.

Але гора—ужо спаугора;
Цыц, нябого, трошкі цыц!
Вось нам вольнасьць дадуць скора
І, як птушкі, будзем жыць.

К чорту жонка, ласа баба!
Бяры чорт і каліту,
А папусці вожкі слаба
І дай волю хамуту.

Будзем роуные з панамі,
Самі будзем мы паны,
І гарелку піць збанамі
І гуляць так як яны.

Перестануть нашым братам,
Як скацінай таргаваць.—
Напускацца ліхім матам,
Скуру з ног да карку драць.

Хоць халодна, хоць галодна
Холад, голад ніпачом!
Эх, каб толькі нам свабодна!
На свабодзі аджывем.



Вось панам ні дужа лоука:
Самым трэба працаваць!
Пабаліць ні раз галоука,
Калі прыдзіцца араць!
Ні адзін та напацеіць
І заскача драпака...
Бо сам толькі есьць умеіць
Ды драць скуру з мужыка.

Як бы быу якой скацінай
Або горшы ад яго:
Білі пугай, ды дубинай,
А цяпер брат ого-го!

Мужык будзіць ні скацінай;
Ні раз скажыць пан з паноу:
„Пане Грышка, пане Міна!
Як жа васпан, ці здароу.“

---

## МАЦЕЙ БУРАЧОК.

Праудзівае прозвішча М. Бурачка—Пранцішак Богушэвіч. Радзіуся ен у 1840 р., пахадзіу із дробнай шляхты. Вучыуся с пачатку у Вільні, а потым у Петроградзі на матэматычным адзелі. Перед паустаннем 1863 р. вярнууся да дому і быу нейкі час вучыцелем народнае школы. Брау учасьць у паустанню, быу паранены і патым паехау да Ніежына, дзе звучау права. Па скончанню навукі доуга мандравау па Расеі і Украіні, пакуль ні асеу у Вільні як адвакат. Пад канец жыцця пераехау на веску у Ашмяншчыні дзе і памер у 1898 року.

Творы беларускія П. Богушевіча вышлі у трох сшытках: „Дудка беларуская“ (Кракау 1891 р.) „Смык беларускі“ („Пазнань 1894 р.) і „Скрыпачка“

---

## У СУДЗЕ.

Давялосяж і мне быць на велькім судзе,
На акружным судзе, гдзе усе у грамадзе:
Мужыкі і паны, маскалі і жыды,
Хто у чым, як папау,—усе туды ды туды.

Тут кажух і шынель і бурнос, лапсардак,
І сурдут і мундзер... а адзін быу і храк.—
(Так як куртка з хвастом) і брадзяжка была...
Прышлі усе і Пантурчыха нават прышла...
Быу тут ксендз, быу і поп. быу і рабін жыдоу,
Толькі наш аляндар,—той чагось не прышоу.

Самы суд за шырокі сеу стол у пяцярох.
Шосты ходзіць сабе,—усе у залатых каунярох,
Як дукат на дукат, так на іх зігаціць
(Каб я быу так багат—ні хацеу бы судзіць).
Па адной старане душ чтарнадцаць сядзіць,
А прад ім—без палы, толькі хвосцік вісеу—
Адвакат, што то меу бараніць, той сядзеу.

Арыштантам тым быу наш Пятрук Пантурок,
Што у пушчы дзесь меу патайны браварок,
Ахакцызнік Яськоу брау з яго кубана,
Дый данес, дый злавіу, як той воук барана:
І акцызнік той быу, прысягаўся і ен,
Як яму хтось данес, як сачыу ен пяць дзен,
Як Пятрук ні паспеу уцячы ад катла...
А брахау дык брахау і сябе усе хваліу,
А таго ж ні сказау, як Пантурку даіу.

Патым нас па адным сталі у суд выклікаць
Прысягаушы на тым, требаж прауду казаць!
Тут пытаюць мяне а тут жаль Пятрука;
І мая ж у яго там прапала мука,
І я думау сабе выгнаць водкі з вядро
На вяселля дачкі (вот былобы добро),
Ды завез Пятруку дзве асьміні мукі,
Дык як раз на тый час налецеліж „крукі“,
Ды мянеж павялі у тый лес панятым,
Каб ім дня ні было і акцызнікам тым!
Як спыталіся усіх,—прачыталі той „ах“,
Што злавіуся Пятрук (а набреханаж—страх),
Там такоя стаіць, што і у думцы німа:
Паравік, зміявік і якаясь шляма...
Прачыталі ото і яшче там папер;
Пагляджуж, кажу я, што-то будзе цяпер.

Прасцідацель сказау: „пяць мінут перарыу!“
І у каморку шмыгнуу, толькі кніжку закрыу
І усе паднялісь і пайшлі хто куды,
Я застауся сядзець, усе роуна—з нуды.
Як вярнуліся зноу, дык адзін той устау,
Што сідзеу на канцы і найболей пытау;



Як пачау ен крычаць: „пратакол, пратакол!“
Паглядзеу на усіх, як узяуся за стол,
І казну спамінау, і трубу, і кацел,
І муку і, мяшок... ды усе—„прытакол!“
Я сяджу і дрыжу, каб мяне ні назвау;
Калі бражці і я тут! —А бадай ты прапау!...

Але хвале мяне, справедлівым заве,
На Пантуркуж зіркне,—як скаціна раве:
„Вінават, вінават, віхай плаце казне“,
І у турму і Сыбір, і яшче кудысь пхне...
Гаварыу, гаварыу, ажно піць захацеу;
Так, як бульбу, Пятра, пасаліушы, ды зьеу.

А сказаць бы, за што. За свае за цабро:
Чалавек захацеу зрабіць водкі з вядро;
Штож за науда яму, каб ен свету ні знау,
Ці Пантурка зьеу блін, ці гарелкі нагнау.
Патым стау вылічаць свае страты акцыз:
Той дык такжа зубамі Пантурка загрыз.
Налічау, налічау,—і двайны і трайны,
Як шынкар у карчме тваю чарку адну.

І начыння забраць, і худобу прадаць,
Што у казну, то у казну і яшче камусь даць.
Тысяч тры там, ці што, налічыу ен пяні.
(У Пятра каб хоць, грош, ні то сто у кішані.
Смашны жабе гарех, да зубоу Бог ні дау—
Каб акцыз тоя меу, што у Пантуркі забрау;
Дзве казы прадалі, ды сярмягу, ды воз,
І то брат аткупіу, а на заутра адвез).

Аж ні сьцярпеу той пан, што у куртцы сядзеу;
Пятруку штось сказау, акуляры надзеу
Каліж крыкне зыкне, аж затросься той суд.
„Гдзе тут, кажа, віна, чым Пятрук вінен тут.
Што скацінку карміу працавітым дабром,
Насіу брагу з двара на насідлах вядром.
Тут турму, тут і штраф для акцыза схаваць“...
Як зачау гаварыць, як зачау бядаваць,
Дык Пятрук і ні гнау, і у лесі ні быу,
А то я вінават, я сам гнау і падбіу,
І данес на яго... Вінават я увесь.

А бадай ты прапау, а бадай цябе реж! —
Як ката да гары, так ен дзела скруціу,
На мяне набрахау, Пантурка зашчыціу.
Я гляджу, што тут-куць,—прападу як сука,
Бо мяшок тыкі мой, ды маяж і мука!..

Калі дзверы скрыпеу, а я—щусьць-праз людзей
Ды на двор, ды у карчму, да кабылы бардзей;
Прыляцеу аж у дом, бурачкоу трохі зьеу,
Сказау жонцы „маучыж“, сам у лес паляцеу:
На тым мейсцы, гдзе быу браварок Пантурка,
Дай садзіць дзерауца, аж самлела рука.
Сцежку мохам заклау і сьлед той так закрыу,
Што ніхто б не пазнау, гдзе і бровар, ці быу
Ды і зноу аж на суд, а суда ужо німа,
Толькі плача, кляне Пантурчыха сама.
Пантурка адвялі тыкі зараз у астрог;
Той куртаты зашчыт, як кадзідла памог.
Яж якось уцалеу ат суда па той час.
Кабжа Бог ні давеу на той суд другі раз!

---

## ПРАУДА.

Ой цяжка, цяжка
Ні сярмяжка цяжка,
Але з гэтай доляй,
А усе што раз болей.

Ой, цяжкая доля! От такбы, здаецца,
Скрось зямлю прапаубыб, ці у сьлезыб разліуся!
Ці мне жыць на сьвеце, ці мне куды дзецца.
Ой Божаж мой, Божа, нащтож я радзіуся!..
Ой, наштож мне дана тая мая мова,
Як я ні умею сказаць тоя слова,
Каб яго пачулі, каб яго пазналі,
Каб яго-то слова, ды праудай назвалі;
Каб і разыйшлося то слова па сьвеці,
Як праменя сонца цеплага у леці,
Каб на тоя слова ды людцы зрадзелі.
Так як тыя дзеткі на сьвятой нядзелі:
Каб же тоя слова, ды людзей з'яднала,
Каб на тоя слова, варагоу ні стала,
Каб людзі прызналі братоу бы братамі —
Дзялілісяб бодай і хлеба шматамі!
А без таго слова я нямы калека!
Хоцьбы занямець мне і да канца века!
Ой наштож мне вочкі, ой наштож мне ясны?
— Каб глядзеу, які я ад усіх ніщчасны.



Каб душа балела, гледзючы на долю,
Каб серца шчымела і рвалася з болю.

Каб было чым плакаць і у дзень і у ночы!..
Ой Божеж мой, Боже, вазьміж мае вочы!
На штож тыя вушы, як ні чуць нічога,
Ні ад людзей добрых, ні з неба ад Бога.

Ой ці ні на тояж, каб чуць людску лайку,
Ды тую плакучу дудку-самаграйку,
Нашую жалейку, што енче ні йграе, —
Хоць як выгравай ты, а яна смутная.

Ой ці не гэтаж, каб чуць, як звякаюць
Ланьцугі на людцах, што с хат уцякаюць.

Ні здзекуйсяж, Божа, нада мной, над імі:
Парабі усіх нас, як камень, глухімі.

Вазьмі усе змыслы, покі прыйдзе Прауда,
Бо жыць без яе нам ні вяліка науда.

Прашу Бога ласкі: „адвярні ты, Божа,
Злую нашу долю, на сухія пушчы,
Адвярні на камень ці на бездарожа,
На вялікі ройсты, на пяскі сыпушчы,

Ды каб ня заснула ні яке стварення
Гэтай долі нашай да веку скончэння!
Ні пачуу ен енку, ні увідзеу мукі,
Крыж уеуся у плечы, ланьцугі у рукі!
Прасіу я суседзяу са мной падзяліцца,
Памагчы крыж несьці, як „з Богам ні біцца“.

Асьмялі людзі мяне, як дурнога,
Да цябе паслалі, да самаго Бога;
Там, казалі, прауда, тут тыкелі сіла!

Дауней, кажуць Прауда на сьвеці хадзіла,
Жабруючыж змерла, а людцы схавалі,
Камяням накрылі, зямлю пааралі,
Каб ні чуць, ні ведаць аб ей ані весьці,
Ды цяпер і кажуць: „Прауда у небі гдзесьці!“
Да пасьліж ты, Боже, Прауду сваю тую
З неба на зямельку сьлязьмі залітую!

Пасылау ты Сына, яго не пазналі:
Мучылі за прауду, сілай пакаралі;
Пасліж цяцер Духа, да пасьлі бяз цела,
Каб уся зямелька адну прауду мела!

---

## НІ ЧУРАЙСЯ.

Ні чурайся мяне, панічок,
Што далонь пакрываюць мазолі;
Мазоль працавітых значок
Ні заразіць цябе ен ніколі.
То медаль за труды і за муку.
Ні хвароба якая з заразы.
Ні стыдайся падаць ты мне руку,
Бо на гэтай руцэ німа сказы!
Эй, смялей аткрывай галаву
Я паклон мой табе да зямлі,
Я тваей галавы ні сарву
І маей вы-б, паны, ні узялі.
Ні уцекай ад маей ты сермягі,—
Мне ні стыдна у ей ані чуць,
Вот твой храк, я ні меу бы адвагі,
Чортоу храк, на сябе апрануць.
На кашулю глядзішь крывым вокам
Што у хаці мне бабы пашылі,
Прапацела яна маім сокам,—
Целы тыдзень яе ні памылі...
А твая-ж! як той снег, як папер,
І пацеу хто і ткау, і бяліу,
І хто шыу, і хто прау... а цяпер
Ты той пот на сябе узваліу.
У кашулі той мне было-б стыдна,
Што ні сам на яе гаравау,
Хоць бялейша яна—ні завідна—
Ні вазьму, каб ты мне даравау.
А кінь вокам на хату маю;
І цячэ, і гніе, і крывая,
У сярэдзіне гной і стаіць на гнаю,
І дзіулюся я сам—як трывае.
Ні дзівіся, панок, як жыву,
Мне ніхто ні памог будаваць.
Хоць лянівым у сьвеці слыву
А магу сьвет карміць, гадаваць
Ты-ж пазнау, што у кніжках стаіць;
А там розуму шмат ад вякоу
І усе можышь па кніжках рабіць;
А дзе кніжка для нас мужыкоу?
Дзе ж нам розуму толькі набраць.—



Знаем толькі загон, ды саху,
І жывем, каб касіць ды араць,
Да жывем мы у Божым страху.
Каб умеу кіраваць я пяром,—
Я бы кніжку шчыркау як папар,
І як косім і жнем Божы дар.
Можа-б ты прачытау той грымзол
І да працы набрау-бы ахвоты,
Шанавау бы мужыцкі мазоль,
Ні чураусл-б мужыцкай бядоты,
І падау-бы руку мне сьляпому
І давеу бы мяне да дарогі:
Ні блудзіу бы і я сярод лому
І калючак, што раняць мне ногі!
Ой раняць і ногі і сэрца
У сэрцы нінавісьць, злосьць родзюць
Дзержаць у тваей паняверцы,
Да здрады вядуць, ат прауды атводзяць!
Даруй же сьляпому, што ходзіць ен крыва
Даруй, што ні відзе, хоць плача.
Абмацкам ходзяць сляпыя—ні дзіва
Відзючы ж у яму як скача...?

---

## ХМАРКІ.

Хмаркі цемныя, мае братанькі!
Вецяр гоне вас без дарожанькі
І ніздзе ж для вас німа хатанькі...
Адпачыніце аж у Божанькі.

Гдзе радзіліся, гдзеж вы хмарачкі?
Гдзе тутэйшымі называліся?
Ляціце усе так, як ярачкі...
Хоць бы трошкі дзе затрымаліся!

Зямлі родненькай, знаць, німа у вас,
Ні вугольчыка, ні прытулачку:
А тут вецяр дзьме горшы раз-у-раз,
Ляціце жа вы без ратуначку!...

Лятучы сьлязой зямлю росіце
Аж шумяць лісткі, зелянее лес:
Паміраючы, жыцьце носіце
Усяму жыцьце, сабе толькі крэс!

## ЯДВІГІН Ш.

Ядвігін Ш. (праудзівае прозвішча Антон Левіцкі) адзін із старэйшіх беларускіх пісьменнікау. Радзіуся у цачатку 70-х рокау. Паходзіць, як і Бурачок, із дробнае шляхты. Пачау працаваць на беларускай ніве у канцы 80 р. р. калі гурток Маскоускіх студэнтау-беларусау выдау першы беларускі штодзеннік: „Гоман“.

Пасьля ен працавау у „Нашай Ніве“, „Сахе“, „Лучынцы“. Апошнія часы брау вялікую учасьць у рожных культурных і палітычных організацыях на Беларусі.

Звычайная форма яго творау—гэта караценькія апаведання. Сярод іх есьць досыць гумарыстычных па свайму зьместу. Гэта асабліва казкі, апрацаваныя із народных, прыкладам: „Вучоны бык“, „Што сказау певень“ і іншыя.

---

## ВУЧОНЫ БЫК.

Павеу Язэп бычка-трэцячка на рынак прадаваць; на дарозе спатыкае салдатау; тыя і пытаюцца Язэпа:

— Куды, старче, бычка вядзеш?

— На торг прадаваць вяду,—каже Язэп—такі, нейкі ніудалы, паравісты удауся, што рады даць ні магу.

— Эх, дурны ты, зямлячок, кажуць салдаты, што ж ты возьміш за гэткую злыбіду. Аддай лепш нам яго на навуку у горад на які год, ды, прынамсі, апасьля жмені са тры грошы згорніш.

Падумау, пачухау патыліцу, Язэп,—падумай—згадзіуся і аддау бычка на навуку салдатам, а сам вярнууся да дому.

Мінуу год; пайшоу Язэп у горад па свайго быка. Дапытауся салдатау, каторым аддау сваю жывелу на навуку, прыходзе да іх і пытае:

— Ну, землячкі, як мой Падласы? Ці добра навучыуся?

— Ах, каб ты ведау, кажуць яны, якой бяды набраліся мы з імі! Сьперша-як сьперша: брыкауся, тузауся, бадауся,—але неяк далі рады—угаманіуся; толькі як прыйшло да самай навукі, то так стау скора брацць усе у свой бычачы розум, што аж рогі паадпадалі, шэрсьць выпаузла, стау хадзіць на двух нагах, словам, зусім падабнюсенькі стауся да чалавека, а які разумны, аж дзіва!



— Ну, я яму скора выганю гэты розум з галавы выгала, кажа Язэп, толькі вядзіце мяне у хлеу, дзе ен стаіць!

— Звар‘яцеу ты, чалавечэ, ці што,—кажуць салдаты. Прауда, чэкау ен цябе, але жыць болей з намі ні захацеу: дагадзіць яму ні маглі патрапіць, перабрауся ен цяпер на сваю кватэру і, чутна, папау у вялікія чыноунікі.

— Пакажыця тыкеля, просіць Язэп, дзе ен жыве, а я ужо сам дам рады:—нябось, пастронкі моцныя узяу.

Салдаты завялі Язэпа, паказалі дом, куды ісьці, а самі уцяклі. Язэп, убачыушы на двара нейкаго чалавека, пытае: дзе тут жыве бык.

— Ні бык, адказывае тэй, а Быкоу; вун у тыя дзверы ідзі.

Раскруціушы настронак і прыгатавaушы пугу, сьмела Язэп адчыняе адны, другія дзьверы і апынууся у вялікім пакоі, дзе убачыу абедауушага за сталом пана.

— Табе чаго,—пытае той.

Язэп падміргіваючы адным вокам, зарагатау і кажа:

— Ішь ты, Падласы, які ласун! Нібось, ні спазнау гаспадара!...

— Вон пашоу!—крыкнуу пан, выскачыушы з-за стала.

— Быську, быську,—стау усьцішываць Язэп разгневанага пана, але той рынууся на яго с кулакамі.

Язэп, доуга ні чэкаючы, закінуу на пана пастронак, зацягнуу яго, ды давай акладаць пугай...

Німа ведама, чым бы гэта скончылася, каб ні зьбегліся на крык людзі і ні абаранілі пана.

---

## ШТО СКАЗАУ ПЕВЕНЬ.

Жыу-быу па сьвеце такі чалавек, каторы разумеу усю гутарку ці то скаціны—зьвер‘я, ці птушак Божых, ці як лес шуміць, ці трава шыпаціць. Толькі нельга яму было прызнацца да гэтага: скажа каму—самаму паміраць трэба. Меу гэты чалавек жонку, і жылі яны паміж сабой складна. Гаспадарку мелі ні вялікую: асла да быка. Асел стаяу у хлеві і авес жрау, на быку гаспадар вазіу дровы і карміу яго саломай.

Вось, аднаго разу прывез гаспадар галле з лесу, адпрог вала і пусьціу у хлеу. Ні пасьпеу яшче і варот прычыніць,—чуе, стау вол жаліцца аслу: „Паганае мае жыцце, братка асел, папапасьці і увагі ніякай ні маю ад свайго

гаспадара: араць—ты, Рабы, ідзі; вады прыцягнуць—запрагай Рабога; дроу прывязьці—зноу Рабы у адвеці. Усе як Рабы, дык рабы: каму пугай па баку—Рабому; каму ежа—салома.—Рабому. А вось, ты асел, стаіш, нічога ні робіш, а сена ды авес толькі глуміш! Разжаліуся асел над доляй Рабога; стау ківаць ен сваей вялікай галавой, каб прыдумаць якую раду для вала. З вялікай натугі свайго асьлячага розуму застрыг доугімі вушамі дый, апусьціушыісподнюю лупу, зашептау: „Ты, вол, захварэй, дык гаспадар і да работы цябе ні возьме і карміць лепш пачне“.

Пачуушы гэта, гаспадар вярнууся у хату ды сьмяецца сам сабе. „Чаго сьмяесся“—пытае жонка.—„От, так сабе сьмяюся“,—адказау мужык.

Назаутрае, дау Бог дзень, пайшоу гаспадарь у хлеу. Глядзіць: вол, адкінууўшы хвост і галаву, ляжыць на баку дый паглядае с пад вока на гаспадара, што будзе. Гаспадар, быццым нічога ні ведаючы аб хітрыках Рабога, закінуу яму сена, усыпау ауса і, прыйшоушы у хату, сьмяецца. Жонка ізноу давай прыставаць да яго: „Чаго шчырысся? мо‘з мяне чаго? Кажы прауду! „Мужык і кажа: „Ні магу я табе прауду сказаць, чаго сьмяюся, бо тады сьмерць мая прышла-б па мяне.“ На другі дзень ідуць гаспадар з гаспадыняй быка даведацца: ляжыць Рабы, хоць сено і салому да чыста спытлявау, толькі на другі бок перавярнууся. Гаспадар і кажа да жонкі: „Німа рады: зарежам быка, бо страта будзе вялікая, а так, то хоць што колечы выручым“. „Пачакай да заутра, калі ні паправіцца—рэж. „Выйшлі яны с хлева, жонка пайшла у хату, а мужык стау пад варотамі слухаць, якая будзе нарада паміж яго жывелай. Ажно бык і кажа аслу: „Дрэнную, ты асел, раду мне прыдумау, што-ж мне без пары пад нажом гінуць. Цяпер парадзь, братка, як з бяды выкруціцца.“ „Німа, кажа ен, іншае рады: папрауляйся, бык! Глядзі, каб ты быу ужо здароу, бо гэтыя жарты дрэнна могуць скончыцца: с цябе скуру злупяць, а мяне у хамут на твае мейсца ушчымяць“.

Чуушы гэта, прышоу мужык у хату дый сьмяецца: „Заутра наш Рабы здароу ужо будзе!“ „А ты скуль ведаеш? Чаго вышчэрыуся? Кажы! крычыць тэпаючы нагамі, жонка. Зара мне кажы! Ты, хіба, нешта пра мяне ведаш, што абы у хату, дык сьмяесся! Ну!—„Сьмерці маей ты, кабета хочаш, ці што—адказывае мужык.—Гавару я табе, што калі прызнаюся перад табой, чаго я сьмяюся, дык у той час паміраць мне прыйдзецца“.



На другі дзень прыходзіць гаспадар у хлеу, ажно бык ужо стаіць ды скоса усе паглядае на яго рукі, ці ні прынес нажа с сабой; але гаспадар—нічога: адчыніушы хлеу, выпусьціу вала да вады і сам за ім ідзе. Рабы, каб паказацца перад гаспадаром, што ен саусім ужо здароу, паставіушы хвост да гары, як дуду, давай выбрыківаць, як мага, заднімі нагамі, а сам з боку паглядае, ці добра бачыць гэтыя штукі яго гаспадар. Але мужык, напаіушы вала, загнау яго у хлеу, вярнууся у хату, дый сьмяецца сабе. Як угледзіла ізноу яго сьмех гаспадыня, калі узьелася яна, калі ні пачне яго лаяць: „Здохні, ты кажа лепей, а скажы прычыну твайого сьмеху! Вытраваць больш ні магу!“ Раззлавау і мужык: „Ну, кажа, калі табе ні шкода мяне, хай ты пропадом пропадзі! Даставай с кубла сьмяротную адзежыну,—скажу ужо табе, усю прауду, хоць сам памру!“ Кінулася з радасьцю жонка да кубла, выцягнула сьмяротную адзежыну, а сама ажна устаяць на мейсцы с цікавасьці ні можа. Гаспадар, уздыхнуушы, стау памалу рыхтавацца на сьмерць. Скінуушы апратку, памыуся, надзеу сьмяротную кашулю... толькі чуе гэта ен, як сабака, што ляжау пад сталом, пачау плакаць і кажа да пеуня, каторы ходырам хадзіу па хаці каля перапялесьценькіх курыц: „Ах певень, як табе ні сорам. Гаспадар уміраць рыхтуецца, а табе вунь што у галаве!“ А певень пад‘ехаушы на адным крыле, калі зараве: „Дурны гаспадар! Я маю дзевяць жонак, дый ліха мяне ні бярэ, а ен праз адну памірае!“ Пачуушы гэту гутарку пеуня, сьціснулася сьперша з жалю сэрца гаспадара, апасьля надпала такая злосьць на жонку, што доуга ні чакаушы, схапіу ен пугу ды калі стау сьцебаць сваю гаспадыню пугауем, што тая з болю ажно занямела... І спужауся і шкода зрабілаая мужыку жонкі сваей, усьцягнуу ен яе на ложак, накрыу, а сам пабег па велле да баб. Назаутра, каб барджэй жонка моцы набралася, зарэзау і сьпек для яе пеуня. Ачуняла у скорасьці гаспадыня, але больш ні лезла у вочы свайму мужыку і, зноу сталі яны жыць паміж сабой складна.

---

## БЯРОЗКА.

Дачакауся Лявон, што яго пацеха—Марыська—выцягнулася у гару, як тая маладая, гладкая бярозка. Ад хлапцоу адбою ні было і, хоць сэрца кроую аблівалася, а пара надыйшла замуж аддаваць.

Справіу Лявон вяселля, як мае быць: каб у сэрцы дзіцячым на доугія годы добрая памятка асталася і каб перад людзьмі сораму ні было; але як прыйшлося раставацца з дачуркай,—сплакауся бедны як бабер: быццым чуло сэрца нешта нідобрае. Ен і кажа ей на апошнім адвітанні:

— Слухай, пацеха мая, адну цябе я толькі маю і адну табе толькі даю раду: калі цябе пріцісьне горкая доля, калі табе будзе вельмі цяжка жыць, што і змогі ні будзя вытрываць, ні жалься нікому, нікому, хіба знойдзешь такую спрыяючую верную душу, як спрыяла і верна была для цябе душа твайго бацькі; ні знойдзешь,—ідзі лепш у лес, выбяры, каторае табе спадабаіцца, дрэва, і яму аднаму, мае ты дзіцятка, душу сваю адкрывай, жаль свой вылівай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прайшло ні мала часу. Паехау Лявон дачкі даведацца. Выляцела Марыська с хаты, кінулася бацьку да кален, прыпала пасьля галоукай да грудзей бацькавых, але у скорасьці, як бы засароміушыся, адскочыла, спусьціла вочкі і стаіць, уся зьбялеушая, толькі губкі дрыжаць...

Доуга Лявон моучкі углядауся на сваю пацеху, а пасьля памалу падыйшоу да яе і глухім, быццым ні сваім голасам, стау дапытываць:

— Цяжка?

— Ой, цяжка, татачка!—уздыхнуушы адказала дачка.

— Жалілася?

— Жалілася,—вышэптала Марыська.

— Каму?

— Бярозцы.

— А больш?

— Ні знайшла каму.

— Нясі сякеру, пакажы мне гэтае дрэва—сказау Лявон.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хістаючыся, як маладая ад буры бярозка, ішла на перадзі Марыся, а за ею, як хмара сумны, ішоу с сякерай Лявон...

— Вось—тая, на узгорку,—здалека паказывала рукой Марыся.—Ой татачка,—жалілася яна,—якая гэта была пекная бярозка, якая гладкая! Якія пекныя былі на ей галінкі, а на галінках паунюсенька зяленанькіх бліскучых лісточкау!..

Лявон маучау.



— . . . Татачка! што ей зрабілося? Гэта-ж цяпер лета... Чаму яна счарнела? Чаму сдрабнелі, пакорчыліся яе лісточкі? Татка!?

Лявон маучау.

— . . . Чаму жауцеюць гэтыя лісточкі? Бачыш, татачка лісточкі з яе ападаюць... Чаму галінкі свае яна у ніз апусьціла, быццым яны плачуць.

Ні пасьпела слова скончыць Марыська, як цяжка грукнуу па дрэві абух... Як падстреленая птушка, скокнула яна і схапіла за руку старога:

— Татачка, ні чапай!! Ні чапай, родненькі мой!—прасіла Марыся баліць... баліць...

Але Лявон, нічога ні кажучы, ізноу стукнуу абухом па дрэві: рэха ні адазвалося—стук быу глухім, як бы гэта ні па дрэві, а па зямлі стукау. Марыська стаяла водаль, заламаушы рукі, і глядзела быццым на нешта вельмі страшнае, толькі з вачей яе сыпаліся адна за аднэй сьлязінкі, як сыпаліся пажоукшыя лісточкі з здрагануушайся пад обухам бярэзіны... Лявон нагнууся, абчэсау каля пня кару і, адагнуушыся, са усяго маху запусьціу сякеру у бярозу і, павярнуушы тапарышча на бок, адшчапіу вялікую трэску. Дрэва заскрыпела, зашпчэла, быцым стала жаліцца, як тое дзіця... а с пад Лявонавай сякеры шчэпкі ляцелі і ляцелі... Але ні доуга яму прыйшлося працаваць: нагнууся Лявон, глянуу на падсечанае мейсца, ткнуу туды тапарышчам і, адагнуушыся, глыбока уздыхнуу.

— Марыська, дзіцятка мае—дрыжачым голасам пачау Лявон,—бачыш. Гэта-ж тут усяго на палец абалоні! А там парахня, адна парахня!.. А ведаеш чаму, гаротніца мая. Ведаеш? Гэта ж твой боль, гэта ж твой жаль спарахнілі гэту бярозку,—бо ты доляй сваей жалілася ей. Древа і то спужкалося такой долі... Умірае гэта бярозка, умірае без пары, бо кожны раз, як ты пріходзіла жаліцца, ей было што раз цяжэй, а ты мае гаротнае дзіця, успомні,—ты тады мела хвіліны, падобныя да шчасьця...

І Лявон, узяушы рукамі галоуку сваей пацехі, моцна прыціснуу да сябе, а Марыська, тулючыся да бацькавых грудзей прашэптала:

— Татачка, а чамуж паміж людзей я ні знайшла каму пажаліцца.

Лявон маучау.

# ГАРОТНАЯ.

У канцы вескі каля старэнькай хаткі удавы Тамашыхі сабралася кучка баб. Кожная з іх штосьць гаварыла, кожная штосьць раіла, але Тамашыха—ні чула, і ні разумела—ані іхніх гутарак, ані іхніх рад. З ахапкам брудных ануч пад пахай, шепчучы штосьці пасінеушымі ад холаду вуснамі, хадзіла яна ад вакна да вакна, ад вуглоу хаты да дзьвярэй і угледалася, ці не пакажацца дзе дымок. І праўда: праціскауся ен паміж лучынак, мейсцамі пазацягіваных за мест шыб у ваконныя рамы: працягівау і праз-надгніушые вуглы хаты,—і праз пашчэпаушыяся у дзьверах дошкі. Дзе толькі дагледзілэ Тамашыха гэты дымок, хутка надбегала тулы, выцягівала с пад пахі анучыну, адрывала шматочак і з усей сілы затыкала ім шчэліну.

Вецер раз-за-разам узрывауся, гудзеу паміж гнілых жардзей азяродау, паміж дзе-не-дзе цэлаго яшчэ частаколу; с сьвістам прарывауся праз голыя галіны вялікай крывой вярбы і гінуу нейдзе у далі: С пахмурнага неба сыпалася імжака. Нездаволеныя, што Тамашыха ні зважала на іх, бабы, пазалеушы, паразцягіваліся па весцы. Скончыла і Тамашыха сваю занятку, глянула на пустую, балоцістую вуцілу і адсунуушыся на прызьбу, шэптала далей.

Што шэптала—сама добра ні разумела. Ведала толькі, што так трэба. Трэба бо,—бо знахарка. Караліха, да каторай Тамашыха сягоньня ешчэ додня займчала курыцу так і раіла. „Зачыні, казала яна юшку, распалі агонь на прыпечку, насып гэтаго, што табе даю, зельля,—хай курыць, а сама выйдзі с хаты. дый пільнуй, каб дым праз шчэліны ні уцекау“. А калі Тамашыха, спыталася, як доуга трэба курыць знахарка строіла так: „столькі часу куры, колькі займае сказаць шэсьць па шэсьць пацероу; тады кажа, і варачайся у хату-усе будзе добра“.

Шэсьць па шэсьць. Ня менш-то пэуна, а мо ужо і боляй як шэсьць па шэсьць пацэрау нашэптала Тамашыха; мо гэта і ні добра. Усхапілася с прызьбы, кінулася да дзьвярей і расчыніла іх. Шугануу дым, цемны едкі дым, грыз вочы, душыу у горлі, але Тамашыха ні зважала на гэта: вобмацкам мінула печ, дабралася да палка і нагнулася.

Там—з нацягнутай на галоуку грубой посьцілкай ляжау Сьцепанка-пацеха і уся надзея Тамашыхі. Ляжау ціханька, і толькі худзенькая маленькая ручка зьвесілася с палка. Тамашыха асьцярожна падняла і палажыла гэту



мілую ручку на грудзі сына, а сама ціханька, каб ні разбудзіць хвораго, адыйшла, села на лаву і задумалася. І, ці то ад дыму, ці то ад гэтых думак, сьлезіна за сьлезіной капалі і капалі з вачей беднай кабеціны...

Задумалася Тамашыха. І ажна сама дзівілася, скуль можа брацца столькі бяды, столькі ніщчасьця, сколькі усьцяж валілася на яе галаву. І за што? Грэшная. Мо яе грэх найважнейшы, найбольшы за усіх. Мо дзеля таго і пакутывае яна за усіх. Мо іншым за тое лягчэй жывецца. Ой, бо ці усе-ж яе жыцце ні адна пакута? Ні адна бяда? Ні адна нідоля?

З малку, помніць Тамашыха, калі была ячше у Язэпаван хаці—там ужо пачалася яе нідоля—там першая. Бо ці-ж гэта ні нідоля, с паміж усіх дзяцей, якія тады гадаваліся у Язэпа—адна яна ні мела маткі. У кожнай хаці былі дзеці, былі і маткі, а от же у яе ні было. І калі бывала бачыла яна, як іншые дзеці песьцяцца, прытуляюцца да матчыныхъ грудзей, бегала і яна—маленькая, худзенькая да тэй высокай белаваласай Тэклі, клала сваю галоуку на яе калені і шэптала: мама, мама. Але пяшчотау, а яшчэ горш гэткіх слоу Тэкля ні любіла: „ні лезь, кажа, да мяне з гэтым-эбуза, а ні дочка ты мне“. Плачучы, бегла тады Ганулька, (Ганулька, гэта-ж яе некалісь звалі Ганулькай, ледзь цяпер успомніла Тамашыха), бегла у які колечы цемны куточак, або уціскалася у запечак і закрыушыся, ціханька шэптала сама да сябе: мама, мама, мама...

Потым... што-ж было потым. Ага: зімой, крыху меньшых ад сябе дзяцей калыхала, насіла, хату заметала, бульбу скрэбала, а у летку—у поле уже стала ганяць. Прыгнаушы на дзяніну, заморэная бяжыць травы каровам, свіньням... Гэтак доуга было, бо ніяк да серпа ні магла налажыцца, але пасьля і гэтага научылася. Стала хадзіць тады на заработкі і, як тая пчолка, знасіць двузлоткі у хату. Але каб з гэтых двузлотак сабе што справіць-адзежыну якую, нікому, дый самой Ганульцы ніколі і у галаву не прыходзіла. Адзевалі яе хатнія: справяць што сабе, падносяць, пацягаюць, дый аддадуць тады ей: „палатай, кажуць, добрая яшче для цябе адзежына будзе“. Цешылася Тамашыха с падарунку, латала і насіла. Інакшых радасьцей Ганулька ні мела; і толькі, калі ужо вырасла на сталую дзеуку, Васіль-хлапец с суседняй вескі. спатыкаючы яе, зажартуе бывала, загаворыць: „дурная ты, кажа, Гануля: цябе крыудзяць дома і ты падаешься. Слухай лепш мяне, усе добра будзе“. І Ганулька, хоць баялася Васіля, але верыла яму

і слухала. Слухала, ажна пакуль ні пагналі Васіля у салдаты, а яна зноу адна асталася. Адна? Каб же хоць на век адной можна была астацца! Але у скорасьці надыйшла найгоршая бяда: радзіуся сынок... Выгналі Ганульку с хаты... прыйшлося сесьці кутам на дворнай пляцоуцы: Ой трудненька прыйходзілася Ганульцы, трудненька! І ні думалася ей, што на сьвеці бяда ні мае канца, што можа быць яшчэ цяжей... Памерла Тамаша канцавога матка; патребна была у хату гаспадыня, а што за п'яніцу ніхто ніхацеу ісьці, абы якоя колечы прыстанішча мець,—пайшла Гануля.

І вось, яна ужо Тамашыхай стала, Тамашыхай—гаспадыней! Бяда толькі, што ні было нацта над чым гаспадарыць: адна усяго кароука, ды дзьве авечкі, каня нават не было. Шнурок свой у запашку аддавалі, дык пражыць было цяжка. Але што там пражыць? нейкі-ж лахман быу нацягнуць на сябе, а есьці? У летку-шчауя, грыбоу-гібель; а зімой-які там дзень? Зусім кароткі. Прыставіць саганок бульбы—на увесь дзень хватае! Вось толькі абы Васільку... ды каб жа яму аднаму? ато і ні агледзілася Тамашыха, як прыбыу Янaчка, Пятрусь і вось гэты Сьцепанка. Сабе-як сабе, а дзецям трэба-ж даць хоць раз у тыдзень нейкі праснак, ці блін, ды малачка калі уліць. Ну і давала Тамашыха колькі мела; а на Каляды на Вялікдзень нават скаромнае траплялася. А хоць і у буднія дні,—на што тоя —грэх нарэкаць: у пячурцы заусёды у запасе бульба валяецца, і ядуць яны яе, бывала ні рауняючы, як тыя парасяткі—праз у весь дзень. дык голад каму-каму—а дзецям ні дакучау. Толькі вось, разважала далей Тамашыха, неяк сыць іх ні брала: жывоцікі, прауда параспірала, але ручкі, ножкі, шыйкі—ажно жаль было глядзець—як тыя цэвачкі. А і сама яна Тамашыха неяк сохнуць стала, дый моц зусім страціла. Дауней, бывала асьміну бульбы закіне на плечы і прымыць с поля, а цяпер і кошык цяжка прыцягнуць. Ні дзеля таго саслабела яна, што галодная была, бо што Тамаш праз колькі-то год духі выймау—біу, не-гэта што—глупасць; вось, другі год ужо яе ні бье: зваліуся пьяны з рыштавання, захворэу і памер, а усе-ж ткі сілы не варочаюцца,—сну зусім німа с таго часу, як увалілася хвароба у хату.

Гэткі-то хлопчык быу Васілька, успамінала сабе Тамашыха, гадкоу з дзесяць пэуна меу; аддалі на службу за падпаска; усе-ж ткі карміць дома ні трэба, ды чатыры рублі пэнсіі брау за летка. От і зарабіу!—як тая сьвечка—згас. Згас Васілька, за ім тэй самай сьцяжынкай пайшоу



Янaчка, а пасьля і Пятрусь. А цяпер вось гэты—Сьцепачка мала то страху нагнау. Згоджаны быу да усіх сьвятых: на усім гаспадарскім, пуд жыта і тры рублі; ведама першая яшчэ служба; ды і тая ні удалася: скаціны хоць мала, але дуроная; зьнямогся, летаючы за ей, так бедны, што без пары сарваць са службы прыйшлося; мо і грошы прападуць, але дома Тамашысі спакайней. Малачка яму напарыць, накрые, у начы да яго устане; толькі нешта ніяк ачуняць ні можа, а вось с тыдзень ужо будзе, то такі страшэнны кашель прычапіуся, што і духу ні давау яму перавесьці. Чаго, чаго ні рабіла, якога толькі ні парыла, ні давала зельля,—нічым супакоіць ні магла, ажна пакуль вось ні зьбегала да Каралíхі і хоць курыцу прыйшлося аддаць, але такога нейкага моцнага—то курэва дала, што зразу кідаць перестало, супакоіуся і гэтак та ціханька ляжыць ані скранецца; нават ручку, што зьвесіушыся с палка была, як папpавіла, так і цяпер на тым самым мейсцы ляжыць...

Цяпер толькі успомніла Тамашыха, чаму гэта, як папрауляла тую ручку, то яна была нейкая ні то потная, ні то ліпкая і быцым цяжкавата... І раптам, як пярун агністы, страшэннае падазрэнне мігнула праз галаву Тамашыхі. Зразу у нутрі зрабілася холадна, пуста; ногі быцым волавам наліліся... Але неяк жа скранулася Тамашыха і апіраючыся то а стол, то а зэдлі, с страшэннымі выкаціушыміся на верх вачамі, ляскаючы зубамі дасунулася да палка і смарганула за пасьцілку. С пад яе паказалася пасінеушая твар ніжывога Сьцепанкі.

---

## Якуб Колас.

Якуб Колас пачынае сабою шых песьняроу „Маладыя Беларусі“ тыя Беларусі, каторая выступіла на ніву грамадзянскай працы у часы „вялікай завірухі“ 1905-1906 р.р. і моцна звязала пытання нацыянальна-культурныя з інтэрэсамі і пажаданнямі шчыра працоунага, праудзіва дэмакратычнага люду.

Якуб Колас (праудзівае прозвішча—Константын Міцкевіч) находзіць із самай глебы народнае: ен сын селяніна з вескі Мікалаеушчыны, Слуцкага павету, Міншчыны.

Радзіуся у 80 гадох. Адукацыю атрымау у вучыцельскай семінарыі у Несвіжу і зрабіуся вясковым вучыцелям.

Вершы пачау-пісаць з маладых гадоу. Як толькі у 1906 р. пачау выходзіць першы беларускі часопіс „Наша Доля“, Колас зараз завязау зносіны з яго рэдакцыяй, і у з чысле гэтага часопісу ужо быу надрукаваны яго першы верш: „Беларусам“.

За арганізацыю таемнага хаурусу беларускіх народных вучыцеляу у 1905 р. папау у турму і кару адбывау у Менску.

Пасьля гэтага доугі час туляуся із кутка у куток, ні маючи сталае пасады і толькі перад самаю вайной зноу стау вучыцелем у Пінску. Але аттуль прызвалі яго як жаунера, і нейкі час ен быу вайскавым. Здоляушы аслабаніцца ад жаунерства, паехау у глыб Беларусі, дзе і па гэтуль працуя як вучыцель.

---

Тая-ж самая даль, той же самы разлог,
Ніаглядны прастор небясоу,
Дзе усе хмаркі плывуць па дарозе, што Бог
Ім адзначыу с пачатку вякоу.
Усе гамоніць вакруг і шуміць як дауней,
Гэты лес векавы, гэты бор...
А чаго-ж сумна нам? Які злы сухавей
Закружыуся, узьняуся з-за гор?
Як у восень туман аблягае луга
І палеу задуменную даль,
Так на сэрцы зьляглі нейкі сум і туга,
А мінулых дзянечкау так жаль!
Эх, ні вернiш ты іх, гэтых сьветлых дзяенькоу,
Толькі цені іх у сэрцы жывуць!
А як міл Божы сьвет і прасторы стэпоу
Дзе прыгожыя хмаркі плывуць...

---

## Восянь у гаю.

Гай заціх, бы зачарован,
Гук і сьпев яго пахован, —
Гай сумуе і маучыць,
Бы душа у час зьмеркання;
Толькі песьней пахавання
Вецер у лісьцю зашуміць,



А яно паміж камлямі
Залаценькімі раямі
Замнуецца, задрыжыць
І на дол ужо зьмяртвелы,
Так пакорна, так ніесьмела
С ціхім шэляхам ляціць...
Ціха у гаю і маркотна,
Толькі лісьцячка гаротна
Штось-то смутнае гудзе.
У гэтай мові ападання
Песьню смутную зьмеркання
Думка чуткая вядзе.

---

## Палёссе.

Край лясоу, край балот і туманау гнілых!
Хоць і бедна у табе, і у лозах тваіх
Вецяр у восень жудою шуміць,
А усе ж міл ты мне—чым ні ведаю сам,
Сумны вобраз маім прыглядзеуся вачам,
І к табе мае сэрца ляжыць.
Я люблю твой абшар, гмах шырокі балот
Дзе бубняць бугаі, дзе красуея чарот,
І дзе травы, як мора, ляглі.
Калі лес там—дык лес! можна тыдзень дыбаць,
А прастор—дык прастор, і канца ні відаць
З сінім небам зліецца удалі.
Я люблю твой спакой, яснасьць ціхіх дзянькоу,
Залаценькі убор, тую чырвонь лясоу,
Што на сонцы у восень бруіць...
Я далека цяпер ад палесскіх раунін,
А люблю ж я той край, бы яго родны сын,
І па ем мае сэрца баліць.

---

## Перад бурай.

Сінь і глыб без конца края,
Ціш і згодачка святая
Неба, землю абняла.

Сонца з ранку жарам пыша,
Ветрык лісці чуць калыша,
Вее чуць паузверх зямлі.

Лес і поле з збажыною
Апавітыя смугою
Задумленныя стаяць.

І сярод цішы трывожнай
Над зямелькаю набожнай
Сталі хмаркі вынікаць.

Ды так ціха, так пужліва,
Як бы зданні, або дзіва, —
Нівядома скуль устае.

Шырыць сонца клуб іх белы
І маланак—громау стрэлы
Ім на страх зямлі куе.

А зямля, як-бы самлела,
Нават дуб стары нісьмела
Зрэдка лісьцям павядзе.

Змоуклі усе вакруг абшары,
Бо замыслілі штось хмары,
Ой, знаць, бура загудзе.

---

## Відак з замкавай гары у Вільні.

(з апавадання „НОВАЯ ЗЯМЛЯ“).

А слауны відак пред сябрамі,
З гары высокай раскрывауся!
І дзядзька ім залюбавауся.
У нізу гары віліс прыгожа,
Як бы дарожкі паміж збожа,
Дарожкі чыстыя, крывыя;
Над імі дрэукі маладыя
Свае галінкі раскідали,
Шалаш зялены ім сплялталі.
Агромны горад, цесна зьбіты,
Весь блескам сонейка заліты,
Займау узгоркі і нізіны.



Дамы цягнуліс як віціны,
То удоуж, то упоперак радамі,
То закрываючысь садамі
Або узгоркам крутабокім;
А дзе васпанам адзінокім
Стаяу палац, як пан у касьцелі
У багатай вопратцы між голі.
Будынкі цесна грамадзіліс,
Адзін к другому усе схіліліс,
Так, часам, у полі у безпарадку
Дурных авец пудліва стадка
Адна другую націскае,
Як, часам, воук іх напужае.
А між дамоу, як бы срэдзь горак,
Тых ручаінак сьветлы ворак,
Віліся вулачкі так, гэтак
Густою тканню шэрых клетак.
У гары, высока над дамамі,
Пазалачонымі крыжамі
Блішчалі цэрквы і касьцелы,
На сонцы зьяючы верхамі,
І гоман іх званоу вяселы
Гудзеу над горадам магуча,
Прыятна, гучна і пявуча.
Налева, між гор крутабокіх,
У берагох сваіх высокіх
На камянех, як тая зьмейка
Вілась шумлівая Вілейка
І гдзесь то нікла за гарою,
Крутнуушысь хораша дугою.
А справа, уніз, свабодным узмахам
Лягла другая рэчка шляхам,
Як бы сталевая пружына;
То Вілія-Літвы дзяціна; —
Ніслася важна між абрывау
Бліскучай стужкай зграбных зьвівау
Як бы жывое срэбра. Хвалі
На сонцы чуць-чуць трэпеталі.
Так у майскі дзень дрыжыць лістамі,
Абліты сонейка лучамі,
Раскошны клен і пышна зьяе,
На сонцы лісьцікі купае.
На левым беразі у шнурочак
Зяленых дрэу пралег радочак,

Як стрэлка, роунінька, пад гору,
Як тыя буквы на паперу.
Дамы каменныя—грамады,
Палацы пышныя, пасады
Весь правы берег абступалі,
І цені іх у вадзе дрыжалі,
І адбівалісь, як у люстэрцы,
У Віліі хмурынок перцы,
Што вісьлі белай чарадою
Высока у небі над зямлею.
А там за горадам, так здатна
І так прыгожа і прыятна
Палоскі нівак шлі абрусам,
Лясы, гаечкі зграбным вусам
То тут, то там у палех чарнелі,
Як бы на сонейку гарелі,
Заслаушысь наміткой тумана,
Лучамі сонейка сатканай.
І у абразох тых самавітых
Палеу задумаю спавітых,
Пачулісь родныя напевы
І дорогія сэрцу сьпевы
Для мужыкоу сыноу заузятых
Палеу, лясоу, лугоу багатых.
Ні горад гэты, ні касьцелы,
Ні манастыр, ні сквэр вяселы
Чаруе погляд задуменны, —
Ралля іх кліча, грунт каменны,
Прастор палеу; іх цягнуць нівы
Лясоу, гаеу і рэчак зьвівы.
Там іх душа там усе іх думы.
Ім далей хочацца ад шуму
Трескучых вуліц, перавулкау,
Ад смроду гэтых закавулкау.
А на гаре было спакойна,
Чуць далятау сюды ні стройна
Далекі шум і той зьмягчауся,
Сюды нейк боязна урывауся.
Гара спакойна пазірала,
Маучанне важнае хавала,
Як сьведка той вялікай справы,
Што для пустой людской забавы
Ніколі уст не раскрывае
І моцна тайну ахраняе.

---



## Ігра Сымона у парку.

(з апавядання „СЫМОН МУЗЫКА“).

У пышным парку радавітых
Тут князеу—багатыроу
Хвалі зыкау самавітых,
Сумам, скаргай апавітых
Цемных пушчау і палеу,
Палілісь, задрыжалі,
Як-бы срэбра рассыпалі
У лісьццю таполеу, дубоу.
І здавалась, штось жывое
Выяулялась з гэтых струн,
Бы дух згоды і спакою
Чараунік які, вядун
Натыхае ім, дрыготным,
Каб высока душу узьняць
І вяселым і маркотным
Чары зыкау паказаць.
Дзед маучау, акамянелы,
Вочы спушчаны у ніз,
І пад вусам пабялелым
Губы ціханька траслісь
Часы „жыткі“ маладой,
Родны кут, далекі край,
Гоман пушчау, голас хвояу, —
Дзе усе гэта?, ні пытай!
Ні вярнуцца ім ніколі,
І цяпер як скрозь туман
Усталі у памяці і поле,
І балоты і курган.
— Слухай, хлопчыку мой любы:
Ты, мабыць, ні чалавек! —
Кажа дзед, трасуцца губы: —
Ты нутро мае разсек
І навеу туман чароуны,
Прошласьць у памяці узьняу,
Голас блізкі і любоуны
Мне у душу завітау...
Але-ша!—дзед тон меняе: —
Тут мы, хлопчэ, ні адны:
Князь, глядзі, тут пахаджае,
Крокі, бы яго чутны. —

Дзед павольна азірнууся,
Пудка хлопчык вочы узняу.
Так і есьць: то князь вярнууся,
Па дарожках пахаджау.
Дзед паправіу брыль, падняуся.
— А, Даніла! як се маш? —
Князь з ім першы павітауся.
— Дзякуй Богу! Князь як наш? —
Падышоу князь і спыніуся, —
З заду йшлі яшчэ паны.
— Дзе ты ґраць так налажыуся?
Музыкант с цябе дзіуны! —
Князь зьвярнууся да музыкі.
Тут паны усе падышлі.
— Ксенжа мае густ вялікі,
Талянт вызнайсьці у зямлі! —
Князю у вочы лістом-сьцеле
Пан паджары і худы.
— То ест шчэнсьце—і так веле —
Злото выявіць з бруды, —
Пан другі яшчэ трактуе;
Хваляць князя і лісяць,
Князь сьмяецца і жартуе —
Мае ім што паказаць.
Дзед Даніла стау с падходу,
Каб паноу ні пагарджаць,
Бо ні панскага ен роду
Косьць ні белая „пся маць“.
— Ну, заграй яшчэ каханы! —
Скрыпку зноу бяре Сымон! —
Сьпеу нікім яшчэ ніграны,
Ніч'ім вухам ні чуваны,
Выяуляе у скрыпцы ен.
А Сымонку прыкра стала:
Чуткім сэрцам адгадау,
Як яму павагі мала,
Бо ен родам заніпалы,
Ен на баль чужы папау;
Што для паньства—ен пацеха,
Дарма сілы ім дае
І для забаукі і сьмеху
Траціць талянты свае.
О, каб мог агнем пякучым
Ен ім душу запаліць,
Болем гострым нігаючым



Усе іх думкі апавіць!
Каб пазналі крыж няволі,
Труднасьць жыцця прастака,
Зыркі сьвіст вятроу у полі,
Лес і долю бедака.
І за тым-жа струны горка
Адклікаліся—гулі,
Гнеу іх, сумная гаворка
У сэрца самае ішлі.
Скончыу граць—паны у ладкі
Запляскалі як адзін;
Мабыць панскія парадкі
Вымагалі такі чын.
Вус у князя узварухнууся.
— А скажы каханы мой,
Што ты выказаць манууся:
Думку, песьню чы настрой?
— Я скажу вяльможны княжэ! —
І пачау Сымонка так:

„Хто пра гора тое скажа?
Дзень памрэ і ночка зляжа,
Узьдзеушы чорны андарак;
Дуб-жа будзе сумаваці,
Бо німа яго дзіцяці,
Бо такая доля іх.
Умірау дуб: верх быу голы,
Тоусты комель яго-кволы,
Лісьцця шум яго заціх.
І была на ім галінка,
Маладзенькая дзяцінка,
На галінцы—жалудок.
— „Я, сыночку, уміраю,
Я у табе надзею маю —
Падтрымай наш род, сынок!
Ты—мая адна надзея...—
Сына песьціць дуб і грэе,
Сок апошні аддае.
На сухіх галінках дуба
Вольнай пташцы сесьці люба,
Ім прытулак ен дае,
Сеу каршун там нілюдзімы,
Аглядае даль вачыма,
Думку думае сваю.

З-за кустоу стралец падкрауся,
Стрэліу—дуб той захістауся,
Як бы ранены у баю.
Куля міма праляцела,
Ды зрабіла злое дзела —
Зьбіла гольку з жалудком:
У рэчку цемную упала,
І вада яе пагнала
Разам з дубавым сынком.
Плача голька, жолудзь ные,
Жальба бераг рэчкі крые,
А тым сумам чужаніцы
Забаулялісь, як дурніцы,
І каршун ім падпевау“.

---

## Наш родны край.

Край наш бедны, край наш родны!
Гразь, балота ды пясок...
Чуць гдзе трохі луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок.

А туманы як пяленка,
Засьцілаюць лес і гай...
Ой ты бедная сторонка!
Ой, забыты Богом край.

Наша поле кепска родзіць;
Бедна тут жыве народ.
У гразі ен, бедны ходзіць,
А працуе—льецца пот.

Пазіраюць нудна вескі,
Глянеш—сэрца забаліць.
На дварэ—палення, цескі,
Куча сьметніку ляжыць.

Крыж хваевы пры дарозе,
Кучка топалеу сухіх...
Сьцішна, нудна як у вастрозі,
Як на могілках якіх.



А як песьня панясецца...
Колькі у песьні той нуды!
Уцекау бы, бег здаецца
Сам ні ведаешь куды.

Край наш родны! Бедна поле!
Ты глядзіш, як сірата.
Нудна ты, як наша доля,
Як ты, наша цемната!

---

## Янка Купала.

Праудзівае прозвішча яго Іван Луцэвіч. Радзіуся у 1883 р. у ваколіцы Акопы пад Менскам. Бацькі яго так сама, як і Коласа простые селяне-хлéбаробы.

Янка Купала песьняр з ласкі Божжай. Яшчэ дзяцюком ен пачау пісаць вершы, ні маючы ніякаго рузумення аб будоулі верша. Яны радзілісь у яго душы у часы цяжкае працы каля машыны на бровары. Гэтыя песьні—вершы надрукаваны у першай кніжцы яго творау „Жалейка“, якая выйшла у 1908 р. Прагнучы за асьветай наш малады песьняр слухау с пачатку у Вільні, а патым у Петраградзі лекцыі на агульна—асьветных курсах. Асьвета пашырыла яго сьветагляд, і у сваіх дальнейшых творах Я. Купала ужо ні абмяжуіцца толькі вясковымі малюнкамі, хоць жыцце бедака селяніна як і раней пануя над яго думкамі.

У 1910 р. выходзіць „Адвечная Песьня“, дзе намалевана усе жыцце мужыка ад калыскі да магілы. Затым—зборнік вершау „Гусьляр“. У 1912 р. ен друкуе драматычную паэму „Сон на кургане“, у 1913 р. вялікі зборнік вершау: „Шляхам жыцця“ і сцэнічны твор „Паулінка“, камэдыю у двух дзеях із шляхоцкаго жыцця.

Апошнія гады перад вайною і у 1914—1915 р.р. Я. Купала рэдагавау часопіс „Наша Ніва“ і гэтую працу прымушан быу кінуць дзеля атходу расейскіх войск із Вільні.

## Гей наперад.

Гэй наперад, покі сэрца
Бьецца, рвецца на прстор,
Годзі млеці у паняверцы;
Гэй да сонца! гэй да зор!

Хай бацькі стагналі учора,
Йшлі на той сьвет без пары;
Сення у нашай моцы гора,
Мы жыцьця гаспадары!
Думка у думку, дружна, сьмела
Усе наперад грамадой!
Кожны ведай свае дзела,
Знай, за прауду крэпка стой!
К новай долі шлях нам ляжа,
Як на небі млечны шлях,
Слова. дум ніхто не зьвяжа,
Жыць, цярпець ні будзе страх!
І не стане больш пакуса
Першых лепшых з боку брацъ
Славяніна—беларуса
Вечна у лапці абуваць.
Дык наперад, покі сэрца
Бьецца, рвецца на прастор,
Годзі млеці у паняверцы!
Гэй да сонца! Гэй да зор!

---

А хто там ідзе, а хто там ідзе?
У вагромістай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што яны нясуць на худых плечах,
На у лапцях нагах, на у крыві руках?
— Сваю крыуду.
А каму нясуць гэту крыуду усю,
А куды нясуць на паказ сваю?
— На сьвет цэлы.
А хто гэта іх, ні адзін мільён,
Крыуду несць научыу, разбудзіу іх сон?
— Беда гора.
А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

---



## Пажалей мужыка.

Пажалей мужыка—бедака,
Ты, каторы адзеты і сыты,
Пажалей,—ні атсохне рука,
Бо яму сьвет да щчасця закрыты.
Як асенняя ноч, як туман,
Цемны сам, цемна у хатцы крывой:
На плечах абарваны лахман,
Ногі скручаны цьвердай лазой.
Холад, голад и нэндзу цярпіць
За кроу и за працу сваю.
Прыйдзе у хату,— у парозі стаіць,
За сталом яго мейсца—с краю.
І ласкавых ен слоуцау нідзе
Ні пачуе, ні кінуць яму;
Ні успаможа ніхто у бядзе,
Ні дасьць хлеба і дроу на зіму.
Так ты, брат, пажалей мужыка,
Каб было яму жыць вяселей!
Пажалей,—ні атсохне рука,
Пажалей ты яго, пажалей!
Пажалей, бо з яго цямнаты
Кожны рад карыстаць заусяды;
Пажалей ты яго сіраты, —
Бо на свет много прыдзе бяды,
Бо за крыуду сваю адамсціць,
Свіням будзе крыві ні пабраць!—
Адамсціць, аж зямля задрыжыць,
Аж віхры зашумяць, загудзяць!

---

## Я ад вас далека.

Я ад вас далека, бацькаускія гоні,—
На чужое небо ужо гляджу сягоння.
Але думкай, сэрцэм толькі вас я знаю,
Як і жыу, жыву я у сваім родным краю.
І німа на сьвеце так вялікай меры,
І німа на сьвеце так каваных дзьверау,
Каб хоць на часіну у будні, ці у нядзелі—
Беларусь са мною разлучыць пасьмелі!
Я ад вас далека... скажуць гэтак людзі...
Але хто заглянуу у чужые грудзі,

І паняу хто шчыра той агонь і мора,
Што гарыць, бушуе і аб чым гавора,

Пойме толькі гэта, хто аж да сканання
Ні пазнау спакою, ні пазнау прыстання;

Каго доля ведзьма ад самай калыскі
Кідала па сьвеце, як той лісьць вятрыскі.

Я ад вас далека.. А дзе ні гляджу я,
Дома толькі думка днюе і начуе;

Знаю толькі пушчы Белавежскай гоман,
Знаю толькі рэчку—с плытнікамі Неман.

Дзе у чужыне будзе сад так гадаваны,
Дзе такі там хорам важна збудаваны, —

Што мне замянілі—б хату і бярозкі,
Хату і бярозкі беларускай вёскі...

Я ад вас далека... Дзеліць нас паусьвета, —
А жыву-ж я з вамі і зіму і лета:

Чую з вамі у восень ніпагоды песьню
Цешуся с праталін вольнаго прадвесьня.

І ці сонцэ узойдзе, і ці сонцэ зайдзе, —
Вечна з думкай там я, мой спакойны край дзе;

З выраю-ж як толькі сустрэчаю гусі,
Весьці у іх пытаю з роднай Беларусі.

Я ад вас далека... Жыву меж чужымі.
Чую-ж вашы песьні—вотклік шлю сваімі;

Дабываю песьні ад душы, ад сэрца,
Аж-бы сам за імі к вам ляцеу, здаецца.

Ні зрабіць нікому гэткай дамавіны,
І ні вырыць яму гэтакай глыбіны,

Каб у іх з вачэй мне Беларусю—маці,
Як людзей хаваюць, гэтак пахаваці.

Я ад вас далека... Божэ ты мой мілы!
Ніразлучны з вамі да самай магілы, —

Ні пакіну думаць сьветам і у пацемку:
Як там жывеце вы, як жыве старонка.

А хоць дасьць мне доля у дамавіне мейсца,—
Устане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца,

І у той бок глядзеці будзе век нізводна,
Гдзе ляжаць загоны Беларусі роднай.

---



## Мой край.

Ляжаць твае гоні—загоны
Сто—мільна на сьвеце на белым,
І жалюцца руняй зяленай,
І коласам жалюцца сьпелым.

Лес—ноч гаманіста, шумліва
З мінуушчыны казкі складае
І шле іх далека па нівах,
Плакуча ад края да края...

Паводкаю коцюцца воды
Руч'еу паміж долау і горау,
У фалях пагодай—нягодай
Купаючы нівы—разоры.

Спавітыя плесьнею вескі
Між пустак заселі бяссільна,
Утуліушыся у цені бярозкі
На вечным кургане бадыльным

А люд... Ен сагнуушыся ходзе
Пад ношкай знямогі—пакуты
І, роючы сны а свабодзе,
З дня у дзень сам сабе куе путы.

Так сьпіш, так жывеш мімаходам,
Мой край, як сьцепная магіла,
С сваім нізавідным народам,
С патухшай і славай і сілай.

---

## Над Неманам.

Ціха і плауна у даль коцюцца воды
Вольнаго Немана, у цемную даль,
Толькі у часе глухой ніпагоды
З берагу Неман ні выйдзе амаль.

Вербы і вольхі калышуцца глуха,
Сінія фалі шумяць і бурляць.
Чуткай душою у такі час паслухай, —
Здасца там гэтакі голас чуваць:

„Гей, не дзівуйся, мой дружэ нідбалы,
Што я сягоння так злосна шумлю:
Грудзі здавілі мне хмары навалай,
Пошусьць уелася у матку—зямлю.

„Сумна мне, сумна, што усе тут іначэй
Неколі бераг мой бачыу і знау:
Іншы меу выгляд-ні гэткі жэбрачы,
Іншы я плыт на плечах сваіх гнау.

„Край, дзе жыцце я свае пачынаю,
Шмат весялей прыглядзеуся на сьвет,
Песьні і казкі інакшыя баіу,
Шчасьце цьвіло у ім, як макавы цьвет.

„Буйным жыцьцем усе чыста кіпела,
Слава далека за мора ішла,
Ворага кожны за плечы брау сьмела,
Цемра чужынцау ні страшнай была.

„Панам быу дома і слауным за домам
Мой патаптаны сягоння народ;
Змог ен ні толькі знаць штукі з заломам, —
Роднаму слову умеу кніжны даць ход.

„З вольнай дружынаю князь на пасадзе
Вольнаму люду законы пісау;
Слухалі князя, а князь што не уладзіу —
Слухау, што веча яму звон казау.

„Чую, ах чую цяпер ешчэ ясна
Той ніугамонны, расходзісты звон...
Сьціх, занямеу, аглушылі напрасна;
Ці адазвецца калі болей ен?..

„Так, так, мой дружэ, іначэй бывала,—
Ні называуся забытым мой край;
„Поунач„ ні раз у ім схову шукала,
Захад знау сілу яго не у нарай.

„Га, а цяперака што гаварыці...
Усе мае скарбы на марна ідуць:
Жыта учора вывозілі віці,
Родные хвойкі сягоння плывуць.



„Людзі чужые змагаюць мне грудзі
З новым парадкам, з адменным жыцьцем, —
Роднаго-ж краю тутэйшые людзі
У шкуру чужацкую лезуць жыуцом,

„Я іх ні ваблю сваею ужо красай:
Вецер інакшы ім дзме у галаве, —
Вісла адным усьмехаецца ласа,
Тые, заплюшчывшысь, пруцца к Неве.

„Скора сын бацьку, а бацька сыночка
Ні распазнаюць адзін аднаго
Дзеці чужацкія корме ужо дочка,
Маці працуе за злыдню свайго.

. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

Прадзедау слава лазой зарастае,
Памяць мінуушчыны дрэме у зямлі.

. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .

„Га! ты ні слухаеш, бачу ужо болей.
Ой, чалавечэ, змарцьвелы у сьне!..
Доуга йшчэ будзеш глухім ты, саколе...
Камень і вольха перш поймуць мяне!...“
. . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтакі у часе глухой ніпагоды
Чуецца у Немнавай гутарцы жаль.
Сьціхне, і плауна зноу коцюцца воды
Вольнаго Неману у цемную даль.

---

## Ноч за ночкай...

Ноч за ночкай ідзе, сьціішна тайна брыдзе,
Разсевае трывогу—знямогу;
Цені густа кладзе на пяску, на вадзе,
Ацемрае гасьцінец—дарогу.

І урок і залом абыймае крылом,
Груганowым крылом спавівае;
Водзіць рэй з ведзьмаком, жэніць ведзьму з вауком,
Кажана і саву заручае.

З ям вылазіць як лунь, Вадзянік і Лясун,
Выпрауляюць русалкі бяседу,
Зьмей дабро цягне с пунь, пакуль крыкне пявун,
Пакуль поунач ні зробіць прагледу.

Небо свой нямы сход; месяц, зор харавод,
Над зямлю то выводзіць, то зводзіць;
Сьпіць сяло, дрэмле кот, вецер цісьнецца у плот,
Як на дудках, у шчэпках заводзіць.

Так ноч ночку вядзе, сьціпна тайна брыдзе,
Разсевае трывогу—знямогу;
Цені густа кладзе на пяску, на вадзе,
Ацемрае гасьцінець—дарогу.

---

## Аратаму.

Ну, годзе ужо спаці! глянь: сьветла ужо у хаці,
Весна заглядае у вакно;
Ужо птушка сьвяргоча, ужо лісьцік шапоча,
Цябе „шнур“ чэкае дауно.

Хай сошка крывая, кабылка худая
І ты сам крывы і худы
Пацягнуцца у поле, на тое прывольле,
На тыя прадзедау сьляды.

Ты—пан, ты—багаты, ты—сіла, араты!
Ты у крыуду ні дауся-б другім:
Знай шмат каму трэба с тваей працы хлеба,
Дый сам ты галодзен саусім ..

Дык выпрамся-ж крошку, дый жыва за сошку,
Ды у поле—к вялікай арбе!
Бач можэ і долю у ніуродлівым полю
Ты выарэш, братка, сабе...



Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі —
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі есць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засевай!.

---

## Касцом.

Дзе вы брацьця удальцы, дзе вы, хлопы—касцы?
Гэй дакуль на вас трэба чэкаць?
Час вам косы клепаць, час вам на сенажаць —
Час вам сілу сваю паказаць!

Пакуль згіне раса, хай засьвішчэ каса,
Ніхай вале у пракосы траву:
Ніхай прыдзе канец на сівец, на званец,
Хай пазнаюць усе грамаду!

Сонце паліць агнем, пот ліецца цурком...
Гэй прівыклі да гэтага вы!
Як вы толькі узраслі, к працы цяжкай ішлі,
І ніхто ні жалеу вас ані!

Пот ліецца цурком,—абмахні рукавом
Дый касой замахай весялей,
І з упаушай грудзі песьню сьлез завядзі,
Песьню родную долі сваей!

Песьню пей і касі, пакуль ясныя дні,
Пакуль хмарау на небе німа;
Зямля, плуг і каса—гэта наша краса,
Гэта наша пацеха адна!..

---

## Ворагам Беларушчыны.

Чаго вам хочэцца, панове?
Які вас выклікау прымус
Забіць трывогу аб тэй мове,
Якой азвауся беларус?

Чаму вам дзіка яго мова? —
Паверце, вашай ен ні украу,
Свае ен толькі упомніу слова,
З якім радзіуся, падрастау.

Цяпер і вы загаварылі,
З апекай вышлі як з зямлі
А што-ж дагэтуль вы рабілі?
А дзе ж дагэтуль вы былі?

Ваш брат и цемен, і галодны:
Хацінка свой зжывае век;
І век ні знау ен дум свабодных,
І крыудзіу свой брат—чалавек.

Вам страшна нашай сьлезнай песьні,
І жальбы страшна вам глухой?
Вам жутка сонца на прадвесьні?
Мілей вам холад с цемнатой.

А што-ж вам беларус такога
Пасьмеу зрабіць, пасьмеу сказаць?
Эх, трэба учыць яшчэ вас многа,
Як свайго брата шанаваць!

Эх, кіньце крыудамі карміцца —
Кожын народ сам сабе пан;
І беларус можа зьмясьціцца
У сямьі нялічанай славян!

Напасьцяй, лаянкай напраснай
Грудзей ні варта мазаліць!
Ні пагасіць вам прауды яснай:
Жыу беларус—і будзе жыць!

Ні столькі „хамскія“ натуры
На карках вынеслі сваіх!
І сьвіст даношчыкау пануры,
Паверце, ні запудзіць іх!

К свабодзе, роунасьці і знанню
Мы працярабім сабе сьлед!
І будзе унукау панаванне
Там, дзе сягоння плачэ дзед!

калісці кау



# Сяргей Полуян.

Сяргей Полуян мігнуу на культурнай ніві беларушчыны як падаючая зорка на небі. Шмат надзей пакладалі на яго беларускія дзеячы, і надзеі гэтыя мелі пад сабою грунт. Але ні тоя суліу прадвечны кон, і згіб бяздольны, без пары, ні даушы нам і сотай часткі таго, на што мы спадзівалісь. Сяргей Полуян быу родам з Піншчыны. З маладых гадоу пачуу кахання да роднага краю і яго забытаго Богам люду. З вялікім жарам брауся за пісьменную працу, пісау вершы, апавядання, пiэсы для тэатру, але ні у час была яго праца.

Спала Беларус сном ніпрабудным. Ні было сьвядомага грамадзянства, ні было коштау для выдавецтва, і гібла без плоду маладое натхнення, і сум агарняу душу песьняра.

8 красавіка 1910 р. на 20 вясне свайго жыцця налажыу на сябе руку Сяргей Полуян.

Пахавалі яго у Кіеві, дзе ен жыу апошнія месяцы свайго жыцця.

Творы яго часткаю друкавалісь у Нашае Ніве, а боляй зусім ні бачылі друку.

Сучасныя варункі прашкаджалі мне сабраць яго творы і даю тут што маю: адзін із лепшых: „Хрыстос Уваскрос“.

Хай гэта будзе кветкай на яго перадчасную магілу.

## Хрыстос Уваскрос!

. . . Хрыстос Уваскрос!

З вялікім сьвятам адвечнага аджыулення віншую цябе Вялікі Беларускі Народ!

Гэтай вялікай ночы страсі с сябе усю пагарду, увесь бруд, каторым аблепліваюць цябе ад вякоу. Чыста вымыйся, прыбярыся у найлепшую вопратку, каб хоць на адзін дзень стау ты роуным з усімі, і ідзі туды, дзе пачуеш гэтыя вялікія словы:

— Хрыстос Уваскрос!

Услухайся у іх. Якая вялікая сіла, які усе ажыуляючы зьмест захаваны у іх. Ці ні чуеш як радасьцю надзеі, радасьцю скораго уваскрэсення вее на цябе ад гэтых слоу:

— Хрыстос Уваскрос!

Над Ім здекаваліся. Яго білі па твары, сьцебалі бізуном. Плевалі на Яго. Кпілі з Яго. У канцы распялі і распятага ні перэставалі мучыць. Спечэныя смагай вусны звільжывалі воцэтам і жоуцю. Ен памер на крыжу паміж двох разбойнікау. Але усе-ж-ткі:

— Хрыстос Уваскрос!

Уваскрос Хрыстос, і крыж,—раней знак пагарды і сораму,—зрабіуся Сьвятыняй усяго сьвету. Мукі Хрыстовы змылі усе з яго. І што году вялікай вясенняй ночы тысячы цэркваў і касьцелау сьвецяцца агнямі сьвечак, ліецца радасны пераклік званоу, крыж падымаецца над мільенамі схіленых галоу і у паветры носіцца радасны шэпт:

— Хрыстос Уваскрос!

Што гавараць табе званы, беларускі народ. Ці ні віншуюць яны цябе ешчэ і с тваім уласным вялікім сьвятам. Скора-ж і ты уваскрэснеш! Ад вякоу пагаржалі табой, тваей мовай; ад вякоу мелі цябе, за быдла, годнае толькі на цяжкую, надсільную работу. Ні давалі табе расьці і развівацца. Воцэтам чужой культуры звільжалі твае, спеченые смагай сьвету вусны. Лепшых тваіх сыноу адрывалі ад цябе, прымушалі іх зрабіцца здраднікамі. А цяпер пышаюцца імі, называюць іх сваімі. І яны такі іхніе.

А хіба-ж яны ні любілі цябе? Хіба лепшы жар свайго сэрца афяравалі яны ні табе? А гдзе яны?

Іх німа с табой. С самаго малку адарвалі ад роднай глебы, атруцілі здрадай. І іх, тваіх дзяцей, маюць за зброю проці цябе.

Цябе катавалі. Ты цярпеу мукі, але ні памер. Глыбока, глыбока ты захавау сваю душу.

Хрыстос быу с табой у тваіх муках, і Ен разам с табой цярпеу іх. Колькі разоу распіналі Яго разом с табой! Больш разоу, чым есьць пясчынак на дне мора! Але кожнаго году па усей Беларускай зямле разносіуся клік:

— Хрыстос Уваскрос!

...І ты уваскрэснеш, мой родны краю. Скінеш с шыі ярмо адвечнаго гора і нуды.

Дагэтуль мы плачэм, дагэтуль мы стогнем,
Адвечных ні можам пазбыцися сьлез...

Ты ужо перастанеш плакаць. Ты падняу свой твар, з надзяей ловіш зыкі званоу:



„Бом! бом!.. Прачыхайся ад сна, Беларусь! Годзі стагнаць ды жаліцца: жальба нічога ні дасць табе. Уставай! Ідзі будаваць зруйнаваную бацькаушчыну!

Наперад да шчасьця! Хай злое усе дрогне,
Вясна ужо на сьвеце—Хрыстос Уваскрос!“

Я бачу, як сьвятлее твой твар, мой родны краю! І, поуны сілы і веры, я крычу на усю моц тваім нівам, лесам і балотам, тваім пануpым вескам, тваім пакрыуджаным сыном:

— З вялікім сьвятам віншую! З вялікім сьвятам, Вялікі Беларускі Народ!

— Хрыстос Уваскрос!

---

## Максім Богдановіч.

Максім Богдановіч, сын вясковаго вучыцеля, радзіуся у 1892 р. у Гродзеншчыні, але на Беларусі ен быу толькі да 2-х гадоу, і зусім маленькім хлопчыкам пераехау у Ніжні-Ноуграду, дзе бацька яго атрымау нейкую пасаду.

Усе свае жыцце Богдановіч пражыу звонку Беларусі, часамі наезжаючы туды ужо будучы дарослым чалавекам. Такім чынам пачуцце да бацькаушчыны у яго душы абудзілась зусім іначей, чым у Якуба Коласа, Янкі Купалы і іншых пісьменнікау, узросшых сярод роднага сермяжнага люду і з малых дзен быушых пад уплывам яскравых малюнкау праудзіваго народнага жыцця.

Богдановіч знау Беларусь больш праз кніжкі і размовы з бацькай, і гэта знацце памагло яму збудаваць у сваем здзанню нейкі зачараваны край, да якога і цягнууся ен усей сваей песьнярскай душой. Па складу сваей прыроды, па напрамку сваей творчасьці Богдановіч надта розніцца ад усіх наагул беларускіх пісьменнікау. Гэта песьняр чыстага хараства і хвілевага уражэння. Дзеля таго, хто кахае форму верша, каму прыемна музыка слоу і чуласьць хвілевых настрояу душы,—той заусягды будзе чытаць Богдановіча. На жаль і гэты пісьменнік памер безъ пары. Звялі яго у раннюю магілу сухоты.

## Пагоня.

Як толькі у сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Успомню Вострую Браму сьвятую
І ваякау на грозных канях.

У белай пені праносяцца коні,—
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць,
Старадауняй Літоускай Пагоні
Ні разбіць, ні спыніць, ні стрымаць!

У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі—гады.
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо'яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі у здагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі у палон?

Бійце у сэрцы іх—бійце мячамі
Ні давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці — Краіна!
Ні усьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прыймі свайго сына
За Цябе яму умерці дазволь!..

Усе лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далека грымяць...—
Старадауняй Літоускай Пагоні
Ні разбіць, ні спыніць, ні стрымаць...

---

## Сонэт.

Паміж пяскоу Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючаго Ніла
Ужо колькі тысяч год стаіць магіла:
У гаршчку насення жменю там знайшлі.



Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усе ж такі жыццевая іх сіла
Збудзілася і буйна ускаласіла
Парой вясенняй збожа на раллі.

Вось сымвол твой, забыты краю родны!
Зварушэны нарэшці дух народны,
Я верую, безплодна ні засьне,
А уперад рыніцца, мауляу, крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеушы з глебы на прастор прабіцца.

---

## Перапішчык.

На чыстым аркушу, прад вузенькім вакном,
Прыгожа літэры выводзіць ен пяром,
Устауляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку; усякімі цьветамі,
Разнакалерными галоукамі зьвяроу
І птах нівіданных, спляценнем завіткоу
Ен пакрашае скрозь—даволі есьць снароукі!
Свае шматфарбныя застаукі і канцоукі!
І загалоукі,—усе,—німа куды сьпяшыць.!
Парой ен спыніцца, каб лепяй завайстрыць
Пяро гусінае, і гляне: сьветла сонца
Стаупамі падае праз вузкае ваконца,
І круціцца у іх прыгожы лехкі пыл,
Як сіневаты дым нявідзімых кадзіл;
Рой хмарачак плыве; шырокімі кругамі
У небі ластаукі шыбаюць над крыжамі,
Як жар гарашчымі; а тут каля вакна;
Малінаука пяе і стукае жауна.
І зноу ен схіліцца, застауку зноу выводзіць
Ніяркім серабром; нічутна дзень прыходзіць,
Ужо хутка будзе ноч, і першая гвязда
Благаславіць канец прыгожага труда.

---

## Слуцкія ткачыхі.

Ад родных ніу, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны бездольныя узяты

Ткаць залатыя паясы.
І цягам доугія часіны,
Дзявочыя забыушы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад пэрсіцкі ткуць яны.
А за сьцяной сьмяецца поле
Зіяе неба з—за вакна—
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расьцвіла вясна,
Дзе блішча збожжа у яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам з'яюць хвалі
Між гор ліючайся ракі.
Цямнее край зубчаты бора...

І тчэ, забыушыся, рука
Заміж пэрсіцкага узора
Цьвяток радзімы васілька.

---

## Маевая песьня.

Па над белым пухам вішняу,
Выцым сіні аганек,
Бьецца, уецца шпаркі, лехкі
Сінякрылы матылек.

Навакол усе паветра
У струнах сонца залатых, —
Ен дрыжачымі крыламі
Звоніць,—ледзьве чутна іх.

І ліецца хваляй песьня, —
Ціхі, ясны гымн вясне.
Ці ні сэрца напевае,
Навевае яго мне.

Ці ні вецер гэта звонкі
У тонкіх зелках шапаціць.
Або мо сухі, высокі
Ля ракі чарот шуміць.

Ні паняць таго ніколі,
Ні разведаць, ні спазнаць:



Ні даюць мне думаць зыкі,
Што лецяць, дрыжаць, зьвіняць.

Песьня рвецца і ліецца
На раздольны, вольны сьвет.
Але хто яе пачуе? —
Можэ толькі сам поэт.

---

## Зімовая дарога.

Шпарка коні імчацца у полі,
Сумна бомы гудзяць над дугой,
Запеваюць аб долі і волі,
Навеваюць у сэрцы спакой.

Уюцца зьмейкай срэбрыстай дарожкі,
Брызгі золата у небі блішчаць,
І маркотныя месяца рожкі
Праз марозную мглу зігацяць.

Поле нікне у срэбным тумане,
Сьнег блішчыць, як халодная сталь,
І лятуць мае легкіе сані,
Унашуся я у сінюю даль.

---

## Упалі з грудзей пана Бога...

Упалі з грудзей пана Бога,
Парваушыся, пацеркі зор.
Яны раскаціліся у небі,
Усыпалі сіні прастор.
І стуль так маркотна і пільна
На край мой радзімы глядзяць...
Што-ж там яны, ясныя бачуць?
Чаго усе дрыжаць і дрыжаць?

---

## Чуеш гул.

Чуеш гул?—Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае ніголасна граць:
Пад рукамі яго разважаючы сум,
Быццым тысячы, крэпка нацягнутых струн,
Тонкаствольныя сосны звіняць.

І ці трэба казаць, чаму сціхла рэка,
Ні шасьцяць у палех каласы,
І аб чым шэпаціць галасок вецерка,
Што зіяе—дрыжыць на лісьцех лазьняка:
Кроплі сьлез, ці халоднай расы?

## Вадзянік.

Сівавусы, згорблены, я залег між цінай,
І гадамі грэюся—сплю на дне рэкі.
Твар травой аблутана, быццым павучынай,
Засыпаюць грудзі мне жоутыя пяскі.

Над вадой ля берага, ціха сьпіць асока,
Ды лаза зяленая жаліцца—шуміць,
Хвалі ціха коцяцца і бягуць далека,—
І усе навокала сном адвечным сьпіць.

## Ні кувай ты шэрая зязюля.

Ні кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары;
Мо і скажаш, што я жыці буду
Але лепш ні гавары.
Бо ні тоя сьведчыць мае сэрца,
Грудзі хворыя мае;
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае.
Кажа, што нідоуга пажыву я,
Што загіну без пары...
Прыляці-ж тады ты на магілу,
Закувай як у бары.



# Змітрок Бядуля.

Праудзівае прозвішча яго—Плаунік. Радзіуся ен у мястэчку Пасадзец Ашмянскага павету на Віленшчыні. Бацька Плауніка гандляваў лесам і да гэтага заняцця гатаваў сына, але у маладога хлопца ні было ніякага нахілу да камэрцыі, і гандлевыя справы ен кепска разумеў.

За тоя надта падабаліся яму гутаркі з „простым“ людам, народныя апавядання, казкі і наагул увесь песьнярскі скарб, які утварыу народ за доугія часы свайго жыцця.

Плаунік, колькі мне ведама, каб мець с чаго жыць, адчыніу у Вільні кнігарню. І вось сядзючы у крамі, ен пазнаеміуся с творамі беларускіх песьняроу і пачау сам пісаць па беларуску пад прозвішчам „Змітрок Бядуля“ ці „Ясакар“.

Лепшыя яго творы—гэта малюнкі вясковага жыцця. Тут ен паказывае такоя добрае знацце селянскага люду і яго душы, якога ні знайдзеш часам у прыродняга беларуса (Плаунік—жыд). Але Плаунік выявіу і з другога боку свой талент у караценькіх апавяданнях—імпрэссіях, якія выйшлі асобным выданнем у 1914 року пад прозвішчам „Абразкі“.

## Ці грэх...

Ці грэх цябе любіць, як кветачку на полі,
Як явар малады што над рэкой стаіць,
Як залатую птушку што жыве на волі,
Ці грэх цябе любіць?..

Ці грэх цябе любіць за песьню што я чую,
За срэбны гучны сьмех, што чыстатой звініць.
За вочы ясныя, за душу маладую
Ці грэх цябе любіць?..

Ці грэх цябе любіць за сьветлыя часіны,
Якія ты даеш мне у шчасьці пражыць,—
За шчырае натхнення, мілая дзяучына,
Ці грэх цябе любіць?..

## Сымон.

Сымон лічыуся найбольшым бедаком у весцы. Дзе калі якое гора навернецца, зауседы трапіць на Сымона; то бык нагу выкруціу, то пуня згарела, то бульба пагніла, то тоя, то сея, але яго ніякая кара з неба ніколі ні міне.

Зрабіуся Сымон чарней чарназема: ходзіць пануры, як галодны воук у чыстым полі і шукае толькі, на чым злосьць сваю спагнаць...

Быццым вужаку носіць ен у грудзех сваіх вялікую, страшэнную злосць, каторая як порах паліць яго, варушыць гострымі калючкамі у нутры і супакою ні дае...

У яго памутнеушых ад бяплоднай працы мазгох, каратаюцца цяжкіе, як шрот думкі:

— Абабрау, аграбіу мяне нехта... Нейкае ліха мне жыць ні дае... „Ты на гару, а чорт за нагу“... Ой што гэта! Божухна... Бо...о...

І ні канчае ен, бо страшэнная злосць душыць горла, вочы туманяцца і наліваюцца крывей...

— Хто ачмуціу мяне? Хто абкруціу мяне?

І азіраецца Сымон кругом сябе сумны, благі... Азіраецца і бачыць сваю жонку, высокую і тонкую, худую кабету з запаушымі грудзьмі, з бледным, падобным да воску тварам, у парванай вопратцы. У адней руце трымае яна маленькаго Юзіка, каторы дрыгае голымі, сінімі ад холаду ножкамі і цягнецца бледнымі вустачкамі да пустых грудзей маці...

Азіраецца Сымон на жонку сваю і дзікім робіцца...

— Во хто вінават! Яна гультайка! Зауседы толькі з дзяцьмі займаецца!.. — І ен спаганяе сваю злосьць... бьець жонку.

Бьець ен сваю жонку што дзень, знаходзючы нейкую прыдзірку і яму быццым лягчэй робіцца.

Сымоніха ні бароніцца, ні крычыць, яна сама падстауляе яму плечы і толькі часамі ціха, слабым, хворым галасам кажа:

— Сымонка! што ты робіш? Гэта-ж грэх! Што-ж з мяне выбьеш?—і маучыць, толькі мацней заціскае бледныя вусны, вочы робяцца вялікія, вялікія... сумныя, сумныя...

Яна гэтак ужо прывыкла, што ніколі ні плача і ціха нясе сваю жыццевую пакуту.



— А мо і запрауды я вінавата,—думае яна часамі.— Можа я ні дагледзіла, можа я мала рупілася, калі кароука, наша карміцелька, здохла... Мо і запрауды я вінавата,— думае Сымоніха—і падстауляе плечы: хай бье! па гэтым жыць буду...

І лупцуе яе Сымон часта, шчыра...

Часта, густа Сымон пьець, але ніколі не пьянеець. Гарэлка ні мае сілы над ім... Толькі робіцца ешчэ сумней, ешчэ страшней;—пальцы скручываюцца у кулакі чорныя, грамадныя...

— Хто мяне грабіць, хто мозг касьцей маіх выймаець?

І бытцым разьюшэны бугай, шпарка бяжыць біць сваю жонку...

І бьець... А кабета маучыць, занятна маучыць быццым запрауды вінавата.

Толькі сохніць Сымоніха, як той завяушы каласок, як тая растаптаная траука на мяжы... Сохне... кашляе... слабее. Плечы хіляцца ніжэй... на сэрцы млосна, абліваецца халадным потам ды сама ні ведае, што з ей робіцца...

— Што с цябе будзе—пачынаюць суседзі ей гаварыць,—ты ж без пары у дамавіну ляжыш. На каго ты дзетак сваіх, сіротак пакінеш? Хто іх гадаваць—даглядаць будзе? Яны, маленькія, пагінуць бяз цябе! Глядзі, ен цябе, біцьем сваім у сухоты увагнау! Чаму-ж ты на яго у воласць не пажалісся?

А Сымоніха маучыць.

А калі суседкі лішне ей дапекаць пачнуць, то яна ім у атказ кажа, што не чужы, а свой мужык бьець, а калі Бог судзіу, то яна жыць будзе і годзі!

Тымчасам Сымон ні унімауся: біу што дзень: кабета сохла усе болей і болей. Сілы ападалі. Загультаілася дый на работу у поле выйсці не магла. Апанела, злегла у ложка.

— Сымонка! Золатца мае!—казала яна у ніпрытомнасьці, перад сьмерцю.—Чаму мяне ні бьеш? Мо лепей-бы гаспадарка пайшла.—І аграмадныя, як пацеркі сьлезы заблішчэлі на яе вачах, і гэтак атдала Богу сваю вінаватую душу...

— Ой, аграбілі мяне!—заплакау-загаласіу апалелы Сымон, зазлавауся, сціснуу кулакі свае, азірнууся кругом, але ні было ужо каго біць...

Пры нябожчыцы матцы свaей, пануджэныя, мізэрныя, абарваныя стаялі сіроткі і дрыжэлі моучкі, бо плакаць баяліся, каб татка ні біу...

* * *

Пахавалі Сымоніху. Якія там хаутуры уладзіу Сымон, то уладзіу, але у хаце зрабілася сумна і пуста без гаспадыні. Паглядзеу Сымон на дзетак—сіротак і сэрца яго, мо' першы раз у жыцьцю, зашчаміу жаль, вялікі жаль...

Божэ мой!—За што гэта я жонку сваю у магілу увагнау?—І нешта нажом урэзало яго у сэрца і нехта балюча таргануу яго сэрцам...

---

## Малітва малога Габрусіка.

— А ведаеш што, сынок—казау Ігнат свайму маленькаму Габрусіку: рыхтуйся! Абувай новыя лапці, бо паедзем на імшу! Ніхай сягоння Настуля ганяе у полі,—патрапіць ужо, а мы с табой, каток, у цэркву паедзем.

Гэта было у нядзелю раніцай. Бацькі Габрусіка жылі далека ад мястэчка, ладны кавалак ад вескі, на адзіноці, над рэчкай, ля цемнага лесу. Ігнат служыу палясоушчыкам у блізкаго пана і цялюсенькія дні швэндауся па лесі са стрэльбай на плячах. Маці хадзіла у двор на падзенную работу; сястрыца Настуля аставалася няньчыць маленькаго Міхаська, а Габрусік с торбачкай на плячах пасьвіу на балоці, ды па асоцы бурую кароуку, цялушку, парасе і пяток гусей.

Надта усьцешыуся Габрусік: ніколі ен яшчэ ні быу нідзе. Паддеушы аладкау, насербаушыся запіркі, надзеу ен новую кашулю, бацькаускую суконную камізэльку, новыя лапці з белымі анучамі і паехау з бацькам на худой кабылцы у мястэчка.

Новым і дзіуным паказалася яму на дарозе усе: і вялікая веска, дзе дяцюкі ігралі на гармоніцы, дурэючы з дзеучатамі, і шырокія вуліцы мястэчка з вялікімі хатамі, і народ, каторы кішеу на рынку. Але ен маучау, вытрашчаушы вочы, быццым дзікі зьвярок.

— Пастой!—кажа яму бацька, тпрукаючы кабылу,—пайду куплю абаранкоу!.. І, выняушы з-за пазухі капшук з махоркай, дастау адтуль некалькі медзякоу і купіу у жыдоукі для Габрусіка абаранкау; але той і ні думау іх есьці...

Вось і цэрква... Яны ужо стаяць у сярэдзіне, і дзіуна блішчаць Габрусевы вочы. Бачыць ен: поп у рызі, шытай золатам, стаіць на амбоне і пяе... Шмат аганькоу сьвеціць, як зоркі у небі, а людзі без шапак стаяць і шэпчуцца,



быццым вецер у бары... Зьвіняць званы пад вялікай брамай, як-бы грымоты у час страшэннай навальніцы на лузе.

Маучыць Габрусік,—маліцца ні можа ен: ніхто его не выучыу; але у яго маладым сэрцы ужо дауно Бог жыве... Дауно душа Габрусіка моліцца яму без слоу...

Помніць ен, як канау стары дзядуля, Антон, с шырока расплюснутымі вачыма; угледзіуся ен, як хавалі на магілках старога, і пазнау, што есьць Бог на сьвеце...

Помніць ен, як радзіуся на сьвет яго маленькі брацітка, Міхаська, і быццым зірнуу на Бога...

Бывала раніцай, калі ешчэ усход, чырвоным морам калыхауся над сонным лесам, птушкі пеялі над рэчкай, а вецер шэптауся у кустах і калыхау залатыя хвалі на панскам жыце,—тады нешта яго быццым рукамі хапала, і ен пускауся бегчы, падбрыківаючы, або клау у губу пальцы і так моцна сьвістау, ажна сам апасьля пужауся зычных отклікау шырокай і прасторнай ваколіцы...

О, ен пазнау, што Бог над зямлей пануе! душой прачуу...

Моляцца людзі старыя і маладыя, і бедныя, і багатыя усе с паднятымі да неба вачыма... Моліцца і бацька яго. а Габрусік і ні чуе, як абаранкі высыпаюцца у яго з рук: глядзіць ва усе бакі і маучыць.

— Та-та, тата! кажа ен раптам. Бацька ні чуе.

— Та-а-та, ні вы-ы-трымаю!...

Ігнат штаухае яго у бок, каб ен маучау, і моліцца зноу.

Людзі апускаюцца на калені, хінуцца усе у адзін бок, як кветкі да сонца...

— Та-а...тачка! сьвіс-ну!...

Ігнат зноу штухае яго у бок і злосна кажа: „ціха"!

Гул ідзе у цэркві .. Габрусік на усіх і на усе пазірае вялікімі сінімі вачамі, а белая, як лен, галоука яго ні кратаецца, ні ківаецца, як у усіх.

Ціш у цэркві...

Украдкам, каб бацька ні убачыу, улажыу Габрусік па два пальцы кожнай рукі у губу і .. зычны закацісты сьвіст раздауся пад высокім скляпенням цэрквы...

Перапужаліся людзі: поп перестау маліцца.

Што гэта? Хто гэта?

Але Габрусік ужо дауно сарвау лапценкі з ног і барджэй кінууся на уцекі дамоу...

А хрысьціяне і ні дагадаліся, што гэта была першая малітва малога Габрусіка у цэркві...

---

## Сэрца прарочa.

Месяц бледны глядзіць на нямую лагчыну,
Над затокаю вольха ківае галінай,
Пушча сьпіць у зачарованым сьне...

Ой, чаму гэтак сьлезы мне вочы туманюць?
Ой, чаму гэтак боль грудзі кволыя раніць?
Ой, чаму гэтак жудасна мне?

Серца нешта благое прарочa.
І з грудзей яно вырвацца хоча...

* * *

Можа нейдзе, далека, у нізведанным краю
Дарагая дзяучынка мая паміраe...
Можа сам буду скора канаць...

Ой, рыхтуець мне нешта таемная доля...
Ой, маучыць, як бы ведае, чыстае поле...
Ой, лес цемны ні хоча казаць...

Сэрца нешта благое прарочa
І з грудзей яно вырвацца хоча...

* * *

У самым сэрцы маім чарауніца трывога,
У самым сэрцы маім царства Чорнага Бога
Разсевае атручэны мак...

І здаецца, усе сьпіць пад ціжарам магілы,
І здаецца, жыцце ніцікава, німіла,
Смокча кроу мне з грудзей ваукалак.

Сэрца нешта благое прарочa,
І з грудзей яно вырвацца хоча...

---



## Прытуліся ка мне.

Прытуліся ка мне, дзяучынка каханая! бо сонейка заходзе, бо цені гусцеюць і каля млына пад возерам устаець, быццым белая воуна, пахучы туман...

А мо́і праудa, што у рожных там замчышчах крыштальных ваюють паміж сабою рыцары дня з рыцарамі ночы.

А мо́і праудa, што на пурпурных хмарках ручайкамі ліецца чырвоная кроу.

А мо́і праудa, што у цемнай хмызе русалкі з доугімі валасамі пяюць цяпер песьні захаду...

Нешта казачнае бачу я у багатых колерах неба...

Нешта таемнае гаворыць мне вячэрняя зорка...

Сэрца мае ператлумачыць сабе усе гэтыя дзіуныя малюнкі.

Цені кладуцца над вескай, цені гусьцеюць на канюшыне за пусткай і неяк робіцца сумна, сумна... Цямней і вялізней становяцца вочы тваe, і душа мая тоне у глыбокім моры іх зіяння.

У гэты самы час тку я са смутку свайго карону для шоукавых валасоу тваіх... Здаецца, нашуся з табой куды-то далека, далека за рэчкай за хмызняком...

Заскрыпелі варотамі касцы, зачырванелася вогнішче на пасеце.

...Прытуліся ка мне, дзяучынка каханая...

---

## Дзень добры у хату.

— Дзень добры у хату сястрыцы і брату—ад старых дзядуляк да малых Януляк! Паслухайце дзеда ля стала, ля абеда: з чэлабіццем прашу—шчыра „ацьку“ скажу. Мае сэрца паунютка, гаварыць буду хутка і чыста, і гладка, зразумее дзіцятка. Ні з жыцця прастога—ад Госпада Бога я буду казаці, а ні жартаваці. Дык, нібы авечкі, маучыце, чалавечкі.

Гукніце, людцы, Амэн!

— Ой, калі ласка, пачну быццым казку: У курнай хацінцыкі з авечкай, са свінкай шмат гадоу жыу, гаравау, тужыу, енчыу, кленчыу Клімка Сядун, бяздольны гарбун.

Ні шмат днеу-шмат гадоу, тры дзесятачкі, без матачкі, ен сіднем сідзеу, хварэу, мадзеу, ні мог кратацца, ні мог выйсьці і ні мог слауненька жыці, есьцікі, піці...

— І у лета, і у марозы ліу, гаротнанькі, сьлезы ні малюсенькія,—ой, гаркусянькіе, ні ласкавыя —ой, крывавыя...

Пакуль ні вытрывау, пакуль ні выцярпеу—давай жегнацца, давай маліцца, каб Матухна Боска яго мілавала, каб Багародзіца яго шкадавала...

Гукніце, людцы, Амэн!

— Давай агледацца, давай азірацца мой Клімка туды і сюды; ажна дзверы адкрываюцца, ні памалу—ужываецца у хату каліка Сьвяты. Клімка толькі—ой, ой! Прад сабою глядзіць—дый каліка стаіць, барада сіва—мора, а вочы як зоры, замест шапкі цар-месяц, замест кія-бліскавіца, і за пазухай сонца, і гэтак ен кажа:

„Ой, досыць сядзець, ой, досыць мадзець, выпрастай багатырскія плечы! Як дауней Сьвятагор, затармошыу сырбор, гулі-гулінькі пойдуць па гаю... Сам крэпак, здароу за сто богатыроу. Стопудовай сахой з златою дугой, на кані вараненькім, у сьвітцэ даражэнькай пакатау свае поле араць: махнеш пугай увакруг,—задрыжыць лес і луг, і суседзі—сябры, і кумы, і сваты прыбягуць пазіраць. Ты пачнеш жартаваць, здыймуць шапкі яны здзіуленыя, пачнуць гутаркі хітра спляценыя. Ты дзякуй ім скажаш, язык свой развяжаш, што ні шанавалі, што ні шкадавалі дагэтуль цябе“.

Гукніце, людцы, Амэн!

— Ой, даражэнькія мае! Ой, міленькія мае! Ні выдумку-казку ні пустую байку кажу вам на казачны лад, а прауду чыстую, як вада крыністая.

— Той сядун—гэта наш беларус. Ен дагэтуль сідзеу, ен дагэтуль мадзеу балота мутней, чорназему цямней, смірней жучочка, ніжэй лісточка, ліу сьлезы ад гора—нуды, ні знау, як выйсьці з бяды. Але і у яго ваконца заглянуло сонца, і думы яго пасьвяглелі. Туд-сюд адзін міг—ен ні горэй усіх: вырывалісь таемныя сілы, і пайшоу гуляць і усім паказаць, што і ен чалавек, гаравау увесь век для другіх для чужых, а дарэмна.. Але вон той ланцуг! Грай дуда на увесь луг, што знік той прымус, што жыве Беларус!...

Гукніце, людцы, Амэн!



# Алесь Гарун.

Алесь Гарун (праудзівае прозвішча—Александр Прушынскі) радзіуся у 1890 р. у Навагрудцкам павеці на Міншчыні у селянскай сямье. Ні атрымау ен высокай асьветы за ніхватам у бацькі коштау, і рана пазнау цяжкую працу дзеля шматка хлеба. Ен зрабіуся стольмахам. Але як цяжкая праца на бравару ні здоляла забіць талент Янкі Купалы, так сама ні здоляла яна перамагчы творчыя натхнення Алеся Гаруна.

Рэволюцыйны рух 1905—1906 р.р. захапіу яго цалком.

І за тое, што „жадау зямлі і волі працоунаму люду“ пайшоу малады песьняр у Сыбір, дзе быу у Якутчыны 9 гадоу.

Адарваны ад роднага краю Алесь Гарун толькі і жыу думкаю аб ем і уперві пачау пісаць вершы, якія пасылау у „Нашу Ніву“ і „Вольную Беларусь“. У 1918 р. у Менску вышшла частка яго вершау асобнаю кніжкаю пад назваю „Матчын Дар“.

## Ты, мой брат, каго звацъ.

Ты, мой брат, каго зваць Беларусам,
Роднай мовы сваей ні цурайся;
Як ні зрокся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер ні зракайся.

Ад дзядоу і ад прадзедау, браце,
Гэта скарб нам адзін захавауся,
У селянскай аграбленай хаце
Толькі ен нізабраны астауся.

У старыну Беларус, ні падданы,
Гаспадарыу, быу сам над сабою
І далека у сьвеці быу знаны
За літоускай і ляшскай зямлею.

Але час праміну, і пядоля
На народ, як бы камень зваліласъ,
Беларуская слава і воля
Адыйшла, адцьвіла, закацілась.

Ні зьменяючы шэрай апраткі,
Працавау ты, як вол, гаратліва,
А у хаці тваей нідастаткі,
А на ніве тваей ніурадліва.

А чаму? Ты ніздольны, ці хворы,
Ці благі гаспадар, ці пьяніца?
Мусіць не! Бо і іншым у пору
У цябе гаспадарыць научыцца.

Сьветлы розум твой, брат, але дзетак
Ад цябе як і усе, адбіралі
І на бацкаускі родны палетак
Працаваць—памагаць ні пушчалі.

Хто хацеу, той і сьмеу рабаваці,
Без прыпросу з'еджаліся госьці—
Абдзіраць, аб'едаць, апіваці
І крышыць гаспадарскія косьці.

Можа-б ты і памер і загінуу,
Каб ні вешчая мова Бояна.
Хто-ж быу добры, яе хоць пакінуу?
Як жа-так, што япчэ ні забрана?

Бо што бачылі госцікі-гэрцы
І зямлю, і лясы, і кілімы,—
Усе забралі, а мову у сэрцы.
У сваім сэрцы хавалі—нясьлі мы.

Дык шануй, Беларус, сваю мову—
Гэта скарб нам на вечныя годы;
За пашану радзімаму слову
Ушануюць нас брацця—народы!

---

## Мілая, родная...

Мілая, родная старонка—маці!
Моцна цябе я і шчыра люблю,
Белныя ніукі твае, сенажаці
І нішчасьлівую долю тваю.



Горам, матуля, цяпер ты замучана,
Стогнам спавіта у сець з ланцугоу,
Рукі і ногі да слупа прыкручэны,
Ціха наругу ты зносіш, без слоу

Толькі ж уцешся, матуля каханая!
Слуп твой патроху пачау падгніваць,
Прыйдзе к нам воля, сьвятая, чаканая,
Сець з ланцугоу як пачнем разрываць.

---

## Восень.

Восень халодная, чорная, хмурая
Сунецца ціха, нячутна, што дзень,
Хварбы наукола паклала панурыя,
Сонца хавае за чорную цень.

Збожжа пажатае з ніваў пазвожана,—
Голыя гоні самотна ляжаць,
Небо дажлівою хмарай абложана
Траукай ні грае сваей сенажаць.

Кветкі ні сьвецяць галоукамі яснымі:
Кусьцце без лісту, без красак стаяць;
З гэтымі восяні днямі безкраснымі
Цяжкія думкі у сэрца ляцяць.

Вольхі, рабіны, асіны з бярозамі,
Лістам пажоуклым тужліва шумяць:
„Хутка надыйдуць завеі з марозамі,
Ветры с сьнегамі ізноу наляцяць".

Толькі высокія хвоі іглістыя
Вечна зялены свой кажуць убор.
Днямі зімовымі, цемна—імглістыя,
Будуць чарнець навакол, наузгор.

Зіму пачуушы мядзьведзь ніспакоіцца,
Ходзіць па лесі, шукае бярлог,
Хмурны і злосны, пакуль супакоіцца,
Горш на скацінку, на людзі налег.

Гусі і качкі гуртамі зьбіраюцца;
Хутка на поудзень саусім паляцяць.
Хэура за хэурай на рэчцы зьменяецца;
У ранку крычаць на вадзе лапацяць.

Так ніпрыкмётна часамі, дзянечкамі
Восень зьмяняе аблічча зямлі...
З гэтымі днямі васеннімі ночкамі,
Думкі мне у сэрца жудосны прыйшлі.

Старое нешта усе спамінаецца.
Толькі ніясна, мауляу, праз туман.
Нейкі ніведамы жаль уздыймаецца.
Вабіць і цягне успамінак—дурман.

Сэрца баліць над жаданяу прымусамі,
Што за жаданні—ніяк ні пазнаць;
Можа ляцеці адгэтуль за гусямі..
Можа заснуць, каб нічога ні знаць...

---

## На Віціме.

Адзін у жалезнай дамавіне
Ляжу без дум, ляжу без слоу,
Ні маю сноу, ні бачу сноу,
Німа бажання і у спаміне.

Навокал хлюпае вада —
Ракі нівернай дар нішчыры;
Наусьцяж зьвініць, як сьпевы ліры,
Пасьпешных хваляк чарада.

Часамі у шчылінку зірне
Праменьчык сонца, зелянь бора,
Між гор скалістая разора,
А у ей шумлівы вадаспал,
Заімкі беднай вокны хат,
Рыбак у чоуні прамільгне, —
Нішто ні вабіць больш мяне!

Німа у душы адгучных нот,
Кудысь падзеуся рым звайчасты,
І чорны сум, як гад кальчасты,
Спыняе сэрца мерны ход.



Плыву адзін у дамавіне, —
Здаецца, стыне у жылах кроу.
Так голы куст у глухой цясьніне,
Між шчэбняу скал, у прытулку соу,
Без дум і слоу паволі гіне.

---

## Эх, сягоння, у гэту ночку.

Эх, сягоння, у гэту ночку
Я уцяку адгэтуль проч!
Шэрым воукам па лясочку,
Хай дагоніць, хто ахвоч!

Хай тагды, сярод дарогі
Станець хто-ні будзе рад:
Чорны вуж абкруціць ногі.
Буду вужам, буду гад!

Хай тагды шукаюць у лесе
Цемных, вузкіх, воучых троп!
Як арол у паднябессе
Я узлячу над земскі строп.

У небі роуным, чыстым шляхам
Яснай зоркай палячу,
І скачуся панад дахам
Роднай вескі і ускрычу:

— Гэй, хто есьць тут! Люд галодны,
Люд пакутны! Да мяне!
Станьма, браццяя, у шых паходны —
Наша гора праміне.

Досыць нам з нядолі віці
Ценкі жыцця свайго пас,
Слухай, люд: прынес я віці,
Хто за мною, браццяя?— Час!

Устануць, рушаць: „Проч з дарогі!
Хто нам хоча заступіць?
Мы пайшлі, мы люд убогі,
Усе узяць, ці усе згубіць“...

Думкі, думкі звадыяцкі,
Ах, ні мучайце мяне!
Вам усе гульні, а мне цяжка
Мне няволя ні міне...

---

## Думкі—дыямэнты

Думкі—дыямэнты, краскі жыцця
Песьні—вас гэтак люблю,
З вамі салодкіх гадзін забыцця
Часам і я пазнаю.

Жыцце—няволя у чужой старане,
Працы надмернай яром
Зараз зьнікаюць, бы у госьці ка мне
Вы паказаліся у дом.

Слухайце ж, думкі: як прыйдзе мой скон,
У хатку зьляцiце ка мне
Хай перадсьмертны уцішыцца стон,
Сэрца, на момант спачне.

Хай засьпеваю, як лебядзь, калі
Прыйдзе гадзіна яму,
Узьнесшыся у небо ад маці -зямлі,
Рыне у адвечную цьму;

Хай засьпеваю аб сьне залатым
Веку людзкога радства.
Роунасьці, вольнасьці, брацтва,—аб тым
Веку красы харавства...

Можа, пачуушы предзгонны мой сьпеу,
Сьціхла-б на сьвеці вайна...
З радасным духам—бы я паляцеу
У царства кахання, родна.

---

## Прамова

Колькі разоу на агульных сходах „Зоркі“, беларускіх мітынгах і прыватных пасядзеннях, як толькі хто небудзь пачынау гутарыць па-беларуску, прыхадзілася мне чуваць: „Гаварите па-рускі! Какой там уже бѣлорусскій язык! Адин срам!“ І гэткія адозвы йшлі з вуснау н… толькі якіх небудзь „черносотенцев“ ці „буржуев“, з…арывалася слухаць гэта і ад люду простага, працоунага, ні маючага, здаецца, ні якай падставы зрэкацца свайго роднага.

Дзіуным мне гэта здавалася с пачатку, але прычына зразумелая. Усе мы выхаваны у расейскай культуры пэу…ага напрамку. А напрамак гэты быу нарыхтаваны усім …ахам Маскоускага дзержаунага жыцця і асабліва падкрэслены „рэформамі“ Пятра І і Кацярыны II: правесьці глыбокую мяжу паміж „дворянством“ і „простым“ людам. Зрабіць так, каб „дворянін“ рожніуся ад мужыка і вопраткаю, і моваю, і ведама, выхаваннем, ні гаворучы ужо аб п…ывілеях усякага роду і зьместу.

Зроблена было усе, каб пракапаць мужы…, што „дворянін“—істота вышэйшай пароды і ен мужык …ула здатны толькі да чорнае працы, быдля нейкае. Гэты па…ляд панавау і на Польшчы.

І вось беларускі селянін, надкаторым …ульці зьдзекавалася апалячаная шляхта беларуская, …тарыушая па польску і называушая нашу мову „хамскаю“,—селянін гэты, папаушы пад уладу Масквы і чакаушы братэрскіх адносін, сустрэу і тут абразу і зьдзек.

Прэстаунік „благороднаго сословія“ ні меушы пашаны да расейскае мовы, (бо на ей гаварылі его ж падданыя мужыкі) тым меней мог шанаваць мову беднага, забітага люду. Аттуль і пайшла гэта зараза.

Бо што ні гаварыцця, а дагэтуль уся культура расейская есьць стварэнне „дворянское“ і мае усе пітаманыя рысы свайго паходжэння.

І вось наш цемны мужык каб унікнуць кпін, як раней перавертывауся на паляка, так пачау перевертывацца на расейца. Стыдаіцца ен сваей мовы, бо яна „хамская“, „мужыччая“, як кажуць яму адны.

Цяпер гэтая „вада“ ні істнуе, бо рэвалюцыя знiстожыла „паноу“ і „хамау.

Есьць толькі вольны народ.

„На гэтай мові нічагусенька німа! кажуць другія: „дзеля чаго я буду кідаць апрацаваную мову, на якой есьць і палітычная аканомія і дзержаунае права і філесофія і браць нейкую дзікунскую?“.

Вось гэтым людзям выдавецтва наша і маніцца пака-заць, што гэта ніпраўда. На нашай мові напісаны прыгожыя творы. Толькі нідбаласьць наша і цемра глумяць іх у ніве-домасьці. На нашай мові можна пісаць і навучныя творы, і яны есьць.

Калі пашанцуе паставіць моцна наша выдавецтва, я і іх надрукую.

Кніжка гэтая з'яуляіцца першаю ластаукаю нашага выдавецтва.

Яна мае мэту даць грамадзянству хоць якое кольвек зна-емства с сучасным беларускім пісьменствам. Можа, прачы-таушы творы, якія знаходзяцца у гэтым зборніку наш бе-ларус зьменіць пагляды на сваю родную мову. Можа і ен пакіне стыдацца сваей бацькаушчыны і праканаіцца, што і наш народ ні горшы за другіх. Можа хто і із другія нацыі зацікавіцца беларусамі і захоча пазнаеміцца, што гэта за народ.

Напісаны аб нашым народзі добрыя, вялікай вартасьці, творы, але яны ні усякаму даступны ды і німа іх у кнігар-нях і нават у кніжніцах.

Каб хоць трохі дапамагчы сваім зямлякам, я умясціу артыкул: „Гісторыя беларускага прыгожага пісьменства“ вельмі кароткі і досыць паверхоуны агляд. Але уважаючы на тоя, што у друку німа і такога і прыймаючы пад увагу ніхват матэрьялу і німагчымасьць у цяперашнія часы саб-раць яго, я лічыу, што усе ж такі ен дасьць якое кольвек разуменне чытачу.

Пісьменнікау я уканавау па часоваму шыху, па маг-чымасьці. Узяу толькі зусім візначную частку, спадзеваю-чысь у далейшых зборніках выявіць з усіх бакоу беларус-кую пісьменнасьць.

Дай Божа, штоб гэтая першая зерня упала на добры грунт.

*Кіеу Люты 1919 р.*

**Лявон Леуш.**

---

А сказаць вось нужу
Дзе вам трэсці мне тую грушу
-20-
... па мужыку ездзіць і глуміцца
Злезце вы лепш і скарку
Каб не утапіцца

**Прымаецца падпіска**

на царкоўна-народную, літэратурную і гаспадарчую часопісь

# „БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА“

**Пачынаючы з 1 верасьня часопісь будзе выхадзіць 2 разы ў месяц.**

**„БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА“**

будзе асьвятляць жыцьцё Царквы і беларускага народу ў Польшчы і заграніцай і дбаць аб пашырэньні куль-туры, рэлігійнай і нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларускага народу.

13) Ужо сярэдзіны дапяў
Ды сабраўся ездзіць
Азірнуўся і самому
Рывальвер пад вухам